Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 37 (4888) 16 верасня 2016 г.


Пошукі і знаходкі Францішка Аляхновіча 7


Мастакі ў культурным дыялогу 12


Таямніцы лесу Неруш 13


Артыст, якога памятаюць 14


Творчы дуэт Паплаўскіх 16

# Дзень як песня

**У музеі архітэктуры і побыту, у вёсцы Азярцо, на фестывалі «Камяніца» беларусы сарвалі галасы і адбілі ад танцаў ногі. Гэта быў дзень пагружэння ў айчынную культуру. Дзень, калі дарослыя, адкінуўшы комплексы, маглі скакаць карагодам пад гукі дуды і бас-гітары адначасова. Дзень, калі ты махнуў на ўсё рукой і на апошнія грошы ў гаманцы панабываў хэнд-мэйд-упрыгожванняў. Гэты дзень стаў для беларусаў песняй, а песня для беларусаў стала днём.**

Працяг на 15-й стар. ▶


*Фота Дзіяны Серадзюк.*

*Традыцыйнае беларускае вяселле на фестывалі «Камяніца».*

# Беларусь: літаратура краін Садружнасці

У Маскве прайшла чарговая кніжная выстаўка-кірмаш. Разам сабраліся кнігавыдаўцы літаральна з усяго свету, каб паказаць чытачам, наведвальнікам свае здабыткі. Сярод стэндаў іншых краін годнае месца займала і беларуская экспазіцыя, арганізаваная Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

У цэнтры беларускай экспазіцыі галоўнае месца займалі асветніцкія, гістарычныя выданні розных выдавецтваў Беларусі. Найперш — «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі», «Народнай асветы», «Вышэйшай школы», «Беларускай навукі», «Мастацкай літаратуры», Выдавецкага дома «Звязда», «Пачатковай школы», выдавецтва «Чатыры чвэрці», «Беларусі»... І гэта зусім невыпадкова. Наперадзе — 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, наперадзе — вялікае свята, якое будзе адзначацца ў жніўні 2017 года...

— І да важкай даты мы вырашылі падрыхтаваць цэлы спектр адметных падарункаў, разлічаных на самага шырокага, масавага чытача, — падзяліўся на выстаўцы развагамі дырэктар «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі» публіцыст Уладзімір Андрыевіч. — Важна, каб да спадчыны Скарыны, ведання пра яго дзейнасць, пра яго багатае на адкрыцці жыццё, якое і сёння асвятляе Беларусь і ўвесь свет, спрычыніліся самыя юныя чытачы. Гэта асабліва важна ў час, калі гавораць пра выміранне папяровай кнігі. З гэтым проста ніяк нельга пагадзіцца. І таму, што за намі, за папяровым кнігавыданнем, папяровай кнігай, вялікая гісторыя, і яшчэ таму, што еўрапейскія краіны, як мне падаецца, перажываюць некаторы рэнесанс папяровых выданняў. Не так усё адназначна, як вымалёўваюць песімісты, тыя, хто галасуе выключна за электронную кнігу. З гэтым пагадзіцца ніяк не магу!..

Паэт, празаік, публіцыст, перакладчык Алесь Бадак, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура», расказаў на адкрыцці беларускай экспазіцыі, што сёння вядучае пісьменніцкае выдавецтва краіны ў значнай ступені арыентуецца таксама на юнага чытача, на студэнтаў і школьнікаў:

— Мы заклапочаны тым, як цікава і разумна падаць новым пакаленням беларусаў нашы традыцыі, якія звязаны з імёнамі легендарных пісьменнікаў Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Кузьмы Чорнага, Максіма Гарэцкага, Пімена Панчанкі, Івана Навуменкі, Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Івана Чыгрынава... Мне здаецца, што трэба зазірнуць і ў досвед папярэднікаў, якія імкнуліся давесці ўсяму свету багацце беларускага прыгожага пісьменства. Варта ў такім расповедзе выкарыстоўваць новыя формы і, магчыма, новыя творчыя тэхналогіі. Дапамагае ў гэтым і новая кніжная серыя — «Сто беларускіх назваў». Першыя кнігі ў гэтай адмысловай серыі ўжо пабачылі свет. Спадзяюся, што ў яе вялікая, доўгая будучыня. Можна было б сёння назваць і многія іншыя праекты. І не толькі нашага, але і іншых беларускіх выдавецтваў...

Беларускія кнігавыдаўцы і пісьменнікі правялі ў Маскве яшчэ і цікавы круглы стол «Беларусь: літаратура краін Садружнасці», падчас якога распавялі пра здабыткі ў галіне міжнародных сувязяў беларускай літаратуры, беларускага мастацкага слова, пра прадстаўленне іншых нацыянальных літаратур свету ў Беларусі. Удзел у дыскусіі ўзялі і літаратары Расійскай Федэрацыі, Казахстана, Таджыкістана, Арменіі, Азербайджана, іншых краін.

Працяг на 2-й стар. ▶

## Пункцірам

✔ Падчас падрыхтоўкі і правядзення выбараў нацыянальныя і замежныя сродкі масавай інфармацыі максімальна маштабна паказалі рэальную карціну таго, што адбываецца ў краіне, адзначыла падчас прэс-канферэнцыі міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч. Паводле міністра, гэта парламенцкая кампанія стала адной з самых актыўных з пункту гледжання асвятлення ў СМІ. Было акрэдытавана 698 прадстаўнікоў масмедыя з Беларусі і 25 краін свету.

✔ Тыдні культуры Германіі пройдуць у Беларусі з 15 верасня да 31 кастрычніка. Мерапрыемствы ладзяцца Пасольствам ФРГ сумесна з германскімі пасрэднікамі і арганізацыямі ў галіне культуры Беларусі ў супрацоўніцтве з беларускімі партнёрамі. У праграму ўключаны кінапаказы і тэатральныя пастаноўкі, канцэрты і паэтычны паядынак, літаратурны калаж, аўтарскія чытанні, выстаўкі, майстар-класы і семінары на актуальныя тэмы ў 11 гарадах рэспублікі. 17 кастрычніка 10-ы раз стартуе Тыдзень нямецкай мовы і культуры ў Брэсце, які за гэты час стаў неад'емнай часткай тыдняў Германіі, а таксама іншых праектаў у галіне культуры ў Беларусі, адзначылі ў пасольстве.

✔ У Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту (Азярцо) адкрыўся адрэстаўраваны помнік XVIII стагоддзя — Спаса-Праабражэнская царква з Барані Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Паводле намесніка міністра культуры Аляксандр Яцко, больш як чатыры гады рэстаўратары працавалі над гэтым цікавым аб'ектам. Рэстаўрацыя помніка архітэктуры XVIII стагоддзя ўяўляе сабой прыклад таго, што дзяржава дбае пра сваю гісторыю.

✔ VIII Міжнародны харэаграфічны фестываль «Сожскі карагод» пачынаецца сёння у Гомелі. Паводле галоўнага рэжысёра Пятра Свярдлова, фэст 2016 года стане самым маштабным за ўсю гісторыю правядзення. Чакаюцца артысты з больш як 20 краін. Упершыню — танцоры з Ганы, Нігерыі, Шры-Ланкі, Індыі. З улікам геаграфічнай разнастайнасці ў конкурсную праграму дадалі новую намінацыю — фальклорна-бытавы танец.

✔ Жывапісец Аляксандр Салаўёў адзначыў сваё 90-годдзе юбілейнай выстаўкай у Віцебскім мастацкім музеі. Пошукі сябе і творчыя эксперыменты навучылі яго спалучаць рэалізм з абстрактным мастацтвам. Творчасць Аляксандра Салаўёва значна паўплывала на развіццё мастацкай культуры не толькі Віцебска, але і ўсёй Беларусі другой паловы XX стагоддзя. На выстаўцы сабрана больш за 100 работ. Гэта 63 карціны з калекцыі самога творцы і 50 — з фондаў музея, аб'яднаных пад назвай «Прастора пачуццяў і сэнсаў».

✔ Міжнароднае свята арганнай музыкі «Арганы Еўропы гучаць у Гродне» пройдзе ў трэці раз. Вядомыя арганісты з васьмі краін дадуць серыю канцэртаў у Гродне з 20 верасня па 24 лістапада. Першыя два фестывалі атрымалі высокую ацэнку слухачоў. Арганісты выконваюць творы на ўнікальным, адзіным не толькі ў Беларусі, але і на тэрыторыі СНД, аргане *Magnus Silesia Royal*, устаноўленым у канцэртнай зале Гродзенскага дзяржаўнага музычнага каледжа.

✔ З нагоды святкавання Дня бібліятэк на электронным светлавым табло будынка Нацыянальнай бібліятэкі можна было пабачыць афарызмы беларускіх пісьменнікаў пра важнасць кнігі і значнасць чытання. Выказванні выкананыя ў форме графічных выяў. Размяшчэнне віншаванняў і паведамленняў на светлавым табло стала традыцыяй Нацыянальнай бібліятэкі падчас мерапрыемстваў, прысвечаных прапагандзе чытання, кніг і бібліятэк.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Беларусь: літаратура краін Садружнасці

А беларусам і сапраўды было што расказаць пра памкненні паядналь мастацкае слова, народжанае ў розных прасторах. Пра гэта гаварылі дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак, дырэктар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Уладзімір Андрыевіч, сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі празаік і паэт Валерый Казакоў, дырэктар маскоўскага выдавецтва «Художественная литература» Георгій Прахін, старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, перакладчык Эдвард Мілітанян, паэт і перакладчык Сяргей Главюк, паэтэса Любоў Турбіна...

Толькі за апошнія некалькі гадоў у Беларусі выйшлі новыя кнігі пісьменнікаў СНД Эдварда Мілітаняна (Арменія), Чынгіза Алі аглу, Лейлы Аліевай, Севіндж Нурукызы (Азербайджан), Немата Келімбетава, Абая (Казахстан), Валерыя Казакова, Алеся Кажадуба, Любові Турбіной, народнага паэта Татарстана Рэната Харыса, Даніїла Граніна, Валянціна Распуціна, Яўгенія Еўтушэнкі, Аляксандра Чэрняка, Барыса Косціна, народнага пісьменніка Удмурціі Вячаслава Ар-Сяргі (Расійская Федэрацыя) і інш. У Выдавецкім доме «Звязда» распачаты новыя творчыя праекты — серыі кніг «Сугучча сэрцаў», «Сябрына: паэзія народаў Расіі», «Сяброўства без межаў» і інш. Падрыхтаваны да друку кнігі народнага паэта Татарстана Роберта Мінуліна, казахскай дзіцячай пісьменніцы Райхан Мажэнкызы, Алеся Кажадуба, Валерыя Казакова, іншых цікавых паэтаў і празаікаў. Канечне ж, ніводзін з гэтых праектаў не быў бы рэалізаваны, не прыйшоў бы да чытача без добрых сяброўскіх пісьменніцкіх, перакладчыцкіх стасункаў. І гэта, на шчасце, добра разумеюць у Беларусі.

**Сяргей ШЫЧКО.**
***г. Масква, Расійская Федэрацыя***

# Ад караля да дварэцкага

## Тыдзень у тэатры імя Горкага — пад зоркай Аляксандра Суцкавера

Заслужаны артыст Беларусі, вядучы майстар сцэны НАДТ Аляксандр Сямёнавіч Суцкавер у жніўні адзначыў 60-годдзе. Тэатр, у якім працуе заслужаны артыст Беларусі, вырашыў прадставіць акцёра ў яго лепшых ролях (у спектаклях, якія ідуць цяпер).

Юбілейны тыдзень адкрые пастаноўка Ф. Дзюранмата «Загадкавы візіт», трагікамедыя пра пакуты маральнага выбару. Гораду Гулену трэба выращыць, ці гатовы яны за мільярд долараў аднаць жыццё Альфрэда Іла, якога і іграе Аляксандр Суцкавер.

Затым будуць прадстаўлены «Жаніхі» М. Гогаля. З выгляду — камедыя пра дурных людзей, а на самай справе — нагода задумацца пра ўласныя каштоўнасці. Незвычайныя касцюмы, адметная ігра акцёраў, прыгожая музыка і харэаграфія дапамогуць пагрузіцца ў атмасферу п'есы. Аляксандр Сямёнавіч пакажа меркантыльнага калежскага асэсара Яечню.



*Аляксандр Суцкавер.*

Пераўвасобіцца ён у дваранiна Баптысту з Пад — бацьку галоўных гераінь у бессмяротным «Утаймаванні свавольнай» У. Шэкспіра. Усе ведаюць і любяць гэтую гісторыю і гатовыя глядзець бясконца. На гэты раз выдатную камедыю прадставілі ў форме мюзікла.

У «Пігмаліёне» Бернарда Шоў палкоўнік Пікерынг у выкананні Суцкавера будзе мужна абараняць Элізу Дулітл ад нападак Хігінса, а простая кветачніца на адзін вечар ператворыцца ў герцагіню і стане больш свабоднай асобай.

Апошняга караля Польшчы Станіслава Панятоўскага прадставіць Аляксандр Суцкавер у спектаклі «Пане Каханку» паводле А. Курэйчыка. Яго называюць самай відовішчнай пастаноўкай тэатра. Многія не згодныя са сцэнічным вобразам Караля Радзівіла, але ўсё ж гэта адна з лепшых прац у беларускім тэатры.

Апошні спектакль тыдня шэкспіраўскі — «Дванаццатая ноч». Блытаніна ў вопратцы, пачуццях, нават у людзях — любімы прыём вялікага драматурга. Але ў жыцці бывае часам яшчэ больш складана зразумець, што да чаго. Добра, што на сцэне ўсё таемнае заўсёды становіцца відавочным. Апошняя на тыдні роля юбіляра — дварэцкі Алівіі Мальволіа.

Для бенефіснага тыдня Аляксандра Суцкавера тэатр выбраў спектаклі, дзе ў яго найбольш яркія ролі. Але знаёміцца з творчасцю артыста можна і далей — увесь год. Акрамя таго, айчынны глядач пазнае артыста і па ролях у кіно.

**Юлія РУДЗЕНКА**

## У пісьменніцкім асяродку

# Да існасці чалавечай

Творчасць празаіка, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца ведаюць і любяць за межамі краіны. Пацвярджэнне таму — колькасць прыхільнікаў яго творчасці, якія прыйшлі на творчы вечар пісьменніка ў Маскве. Імпрэза, прымеркаваная да Дня нацыянальнага пісьменства, прайшла ў Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі.

Аўтар паўсотні кніг, наватар жанру міліцэйскага дэтэктыву ў беларускай літаратуры, Мікалай Чаргінец доўгі час працаваў у органах унутраных спраў. Адсюль — сюжэты яго твораў.

— У мяне багатая палітра выдатных пісьменнікаў, творцаў слова, якія дапамаглі мне ў станаўленні і, галоўнае, пакінулі след у душы як сябры, — распавёў Мікалай Іванавіч гасцям творчага вечара, якія пазнаёміліся і з выданнямі беларускіх літаратараў — пераможцамі нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі».

***

Выхад першай кнігі — для аўтара заўсёды падзея. Ды не для аднаго аўтара, асабліва калі гаворка ідзе пра цэлыя серыі кніг маладых і дасведчаных літаратараў.

Чарговая прэзентацыя ў Доме літаратара такіх кніжных серый — «Мінскія маладыя галасы» і «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» — яшчэ раз пацвердзіла: таленавітых і перспектыўных творцаў няма-ла. Важна толькі своечасова заўважыць здольнасць пісаць, своечасова раскрыць літаратурны дар. У серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» за няпоўных 5 гадоў выйшла 28 кніг, у серыі «Мінскія маладыя галасы» за такі самы тэрмін — 19. Сёлета ў «Бібліятэцы...» пабачылі свет кнігі «Венчыкі златыя» Наталлі Саветнай, «Імя тваё» Уладзіміра Шуглі, «І няма нічога даражэй» Міхася Пазнякова, «Белы бераг» Іны Фраловай, «Спроба перакладу» Філмара Плэйса, «Гвардзейцы Гіпакрата» Уладзіміра Тулінава. Аўтары, якія прысутнічалі на сустрэчы, самі прадставілі публіцы свае творы. Цікава, што «Гвардзейцы Гіпакрата» прысвечаны ваенным медыкам. Сярод іх падчас Вялікай Айчыннай вайны апынулася і маці аўтара, якая працавала ў медсанбаце. А кніга прозы Міхася Пазнякова — пра бацькоўскі дом, пра бацькоўскую зямлю, — пра Радзіму. І сапраўды, што можа быць даражэй...

У серыі «Мінскія маладыя галасы» сёлета пабачылі свет кнігі «Цярністы шлях» Кацярыны Стройлавай і «Шлях у Нябёсы» Марыны Наследнікавай. Лірыка абедзвюх паэтэс — глыбока духоўная, узнёслая, прасякнутая любоўю да Бога, жыцця, людзей. Спадабаліся слухачам і вершы Філмара Плэйса (Уладзіміра Ашуркі), паэта арыгінальнага жанру, які піша хоку, хоць не чужая яму і традыцыйная паэзія. Сваю кнігу «Спроба перакладу» (насамрэч ніводнага перакладу тут няма — толькі арыгінальныя творы!) ён называе «кнігай пра цішыню і маўчанне». Доўгія дарогі ўночы, музыка дажджу, шум мора — вось у чым крыніца яго натхнення.

Паэты чыталі свае творы не толькі самі. Адзін з вершаў Іны Фраловай прадэкламавала загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка. «Паэзія... Ці не з'яўляецца яна кодам доступу да чалавечай існасці?..» — разважае белым вершам Іна Фралова.

Доступ да існасці... У нетрах чалавечай душы часам крыюцца такія глыбокія перажыванні, якія не давяраеш нікому. Толькі паперы. І вось яно, паэтычнае слова, — выходзіць да чытача, атрымлівае рэзананс, нават калі гэтага і не чакаеш.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Уколы смеху ад «Вожыка»

## Гісторыя і сучаснасць радзімы — у форме гумарыстычнага малюнка і карыкатуры

У сталічным Палацы мастацтва працуе выстаўка беларускай карыкатуры «Часопісу сатыры і гумару “Вожык” — 75!». Такім чынам вырашылі адзначыць юбілейны год выдання часопіса сатыры і гумару.

— Беларусам варта пазнаёміцца з выстаўкай «Вожыка», бо заганы жыцця і людзі з цяжкімі характарамі існуюць заўсёды, а карыкатура кпіць з благога, выхоўвае сваіх гледачоў праз смех, — сцвярджае мастак Аляксандр Каршакевіч. — Гэта патрэбная і ўсім зразумелая графіка. Карыкатура будзе жыць, калі ўжо не ў друкаваным выглядзе, дык у інтэрнэт-прасторы.

Для наведвальнікаў выстаўкі ў Палацы мастацтва змешчаны першыя нумары вядомага агітплаката часоў Вялікай Айчыннай вайны «Раздавім фашысцкую гадзіну», з якога і пачаўся творчы шлях сёлетняга юбіляра. Старонкі баявога выдання былі занятыя палітычнай карыкатурай і знакамітым сатырычным плакатам, што займаў галоўную паласу і лаканічна выконваўся ў дзве-тры фарбы. Сучаснасць прадстаўляюць творы такіх майстроў сваёй справы, як Алег Папоў, Аляксандр Каршакевіч, Сяргей Волкаў, Алег Гуцол, Пётр Козіч, Вікенцій Пузанкевіч, Павел Гарадцоў (Шычко), Анатоль Гармаза, ды іншых. Некаторыя з аўтараў удзельнічалі ў калектыўна-тэматычных праектах Міністэрства інфармацыі Беларусі, а некаторыя ўжо маюць за плячыма досвед стварэння персанальных выставак. На два тыдні іх карыкатуры ды шаржы стануць часткай экспазіцыі адзінага ў рэспубліцы літаратурна-мастацкага сатырычнага часопіса, што за 75 гадоў выгадаваў не адно пакаленне мастакоў-гумарыстаў.



*Вокладка першага нумара часопіса «Вожык».*

Рэдакцыя «Вожыка» ажыццявіла гэты праект пры дапамозе Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Выдавецкага дома «Звязда», а таксама Саюза мастакоў Беларусі, дзякуючы якому беларусы пабачаць гісторыю і сучаснасць сваёй радзімы ў форме гумарыстычнага малюнка і карыкатуры.

**Дар’я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Сезон-25

## Сувеніры і «закулісныя» сустрэчы ад РТБД

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі пачаў юбілейны тэатральны сезон. 25 гадоў — не малы тэрмін для трупы, якая пачынала зусім без уласнага будынка. І да гэтага юбілею РТБД падышоў з сапраўды напалеонаўскімі планамі.**

У студзені трупа рыхтуецца паказаць адразу два «капуснікі» для вузкага кола сяброў і для ўсіх гледачоў. А на ўвесь сезон дырэктар тэатра паабяцаў восем прэм’ер! І гэта без уліку паралельных праектаў.

Між тым ужо пачалося галасаванне за лепшую п’есу конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць». І калі сярод прадстаўленых работ з’явіцца дастойная — будзе пастаўлена і яна.

Акрамя гэтага, працягваецца работа ў рамках сумеснага праекта РТБД, Міжнароднага грамадскага аб’яднання «Тэатро» і французскай тэатральнай асацыяцыі *Demain le Printemps* — «Тэатральная арка». У кастрычніку маладых франкамоўных акцёраў чакаюць у Мінску на дзевяцімесячную стажыроўку. А на 2017 год плануюцца гастролі ў Францыю.

Да 25-годдзя вызначаны і новы курс працы з гледачом. Тэатр удасканаліў лагатып, распрацаваў адзіны друкаваны дызайн. У рамках новай рэкламнай праграмы запланавана некалькі «закулісных» сустрэч з гледачамі і ўласная лінейка сувеніраў. А таксама дабрачынная акцыя, узяўшы ўдзел у якой любы жадаючы можа падарыць білет на спектакль дзецям, для якіх паход у тэатр — раскоша.

Юбілейны год для РТБД абяцае быць насычаным, нават калі спраўдзіцца палова запланаванага.

**Аляксандра ГАРАЧКА**

# «Максімус» фатаграфіі

У верасні мінулага года ў Гомелі быў адкрыты першы ў Беларусі музей фатаграфіі. А сёлета, у ліпені, на базе музея быў арганізаваны фотаклуб «Максімус». Стварэнне клуба і першы дзень нараджэння музея сталі нагодай да адкрыцця новай выстаўкі, якая была прэзентавана жыхарам Гомеля.

Калекцыю выстаўкі складаюць фотаматэрыялы ўдзельнікаў клуба «Максімус». Іх каштоўнасць — у раскрыцці праблемных тэм, з якімі сутыкаецца сучаснае грамадства. Многія з фотаздымкаў аўтараў можна ўбачыць на старонках такіх знакавых выданняў, як іспанскі часопіс пра сістэму і дэталі фотамастацтва «*Foto DNG*» альбо ў мастацка-пазнавальным альманаху «*Australiantmosaic*» і іншых. Многія работы творцаў вядомыя ў Расіі, Украіне, Польшчы, Чэхіі, Ізраілі…

Акрамя прэзентацыі работ вядомых мастакоў, на выстаўцы дэманструюцца здымкі пачынаючых фатографаў, якія на пачатку творчага шляху паказваюць годныя вынікі і здольныя прыдумляць крэатыўныя канцэптуальныя падыходы да фотамастацтва. Ідэя аб’яднаць на выстаўцы работы маладшага і старэйшага пакалення вельмі цікавая. Тут адразу прасочваюцца і традыцыйныя элементы, і абсалютна новыя крытэрыі падачы фотаздымка.

Выстаўка атрымалася насычаная і арыгінальная. Усе работы адрозніваюцца каляровым насычэннем, настроем і светаадчуваннем, але ёсць і тое, што аб’ядноўвае, — бязмежная любоў і павага аўтараў да сваёй справы.

**Вікторыя АСКЕРА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**19 верасня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Юрасём Нератком у дзіцячую бібліятэку № 15 г. Мінска (вул. Слабадская, 27). Пачатак у 14.30.*

**19 верасня** — *у Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5, 2-і паверх) на ўрок мужнасці, які праводзяць паэты Мікалай Іваноў і Таццяна Купрыянец. Пачатак у 15.45.*

**20 верасня** — *на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Кіраўнік — паэтэса Іна Фралова. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**21 верасня** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на творчую сустрэчу з паэтэсамі Таццянай Жылінскай і Ганнай Кашуба. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**21 верасня** — *у Мінскі гарадскі навучальна-аздараўленчы цэнтр «Лідар» (г. п. Ждановічы) на творчую сустрэчу з пісьменнікам Дзмітрыем Дземідовічам. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**22 верасня** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніцы Тамары Бунта «Дзяўчынка з Вішнёвага завулка» ў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы (вул. Я. Купалы, 4). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**22 верасня** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**22 верасня** — *на творчы вечар пісьменніцы Алены Міхаленка ў публічную бібліятэку № 19 (вул. Казінца, 122) у межах Дзён праваслаўнай культуры. Пачатак а 16-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**18 верасня** — *на пасяджэнне народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца» Мінскай вобласці (г. Мінск, вул. Гікала, 4). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**22 верасня** — *на сустрэчу на тэму «Квітней, Радзіма мая!» з краязнаўцам Іванам Ярашэвічам у дзяржаўным аграрным Смілавіцкім каледжы. Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**22 верасня** — *на XI Гарадзенскія навуковыя чытанні, прысвечаныя 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, з удзелам літаратуразнаўцаў Аліны Сабуць і Святланы Тарасавай, у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Ф.Карскага (г. Гродна, вул. Замкавая, 20). Пачатак а 10-й гадзіне.*

## Дайджэст

• Прэмія імя Данііла Хармса заснаваная ў Санкт-Пецярбургу. Прысуджацца яна будзе не толькі літаратарам, але і прадстаўнікам іншых відаў мастацтва, у якіх некалі выявіў талент Хармс. Заснавальнікі прэміі паведамляюць, што ўзнагароды прадугледжаныя толькі за першае і другое месца, але будуць існаваць і заахвочвальныя прэміі. Імёны першых пераможцаў абвесцяць сёлета 30 снежня, у дзень нараджэння Данііла Хармса.

• Прыхільнікі творчасці амерыканскага фантаста Джорджа Марціна з нецярпеннем чакалі з’яўлення шостай кнігі сагі «Песня лёду і полымя». Нарэшце выдавец паведаміў, што «Вятры зімы» напісаныя і гатовыя да публікацыі. Да гэтага Марцін прызнаваў, што напісанне кнігі зацягваецца праз здымкі чарговых сезонаў экранізацыі сагі, вядомай у свеце пад назвай «*Game of Thrones*». Дата з’яўлення кнігі неаднаразова агучвалася ў розных крыніцах і неаднаразова змянялася. Апошняй пазначалася 9 сакавіка 2017 года на сайце *Amazon France*. Аднак выдавец Марціна просіць чытачоў не верыць такім звесткам: «Як выдаўцы, мы падтрымліваем Джорджа Марціна, які старанна працуе над заканчэннем “Вятроў зімы” — прамежак між выхадам шостай кнігі і напісаннем папярэдняй склаў шэсць гадоў. Мы хочам заявіць, што любая інфармацыя пра даты выхаду кнігі не адпавядае рэчаіснасці. Як толькі мы будзем ведаць яе, у той жа момант паведамім усяму чалавецтву».

• Англійскі гісторык Майк Ковэл сцвярджае, што дакладна вызначыў месца пахавання аднаго з найзнакаміцейшых злачынцаў мінулых стагоддзяў Джэка Патрашыцеля. Ковэл даследаваў паліцэйскія і іншыя архівы ў Брытаніі і за яе межамі. У выніку вызначыў, што Патрашыцель, чыё сапраўднае імя было Дзімінг, скончыў жыццё ў Аўстраліі, дзе яго прыгаварылі да павешання за забойства чарговай, трэцяй па ліку, жонкі. Так, аўстралійскія паліцыянты аказаліся больш паспяховымі за сваіх брытанскіх калег.

• Магілёўская чыгунка пераходзіць на беларускую мову. Цяпер у магілёўскіх цягніках рэгіянальных ліній эканом-класа абвесткі перадаюць па-беларуску. Супрацоўнікі чыгункі паведамляюць, што на гэта выдала адпаведны ўказ кіраўніцтва. На самім вакзале абвесткі дублююць па-беларуску і па-руску. Іншая інфармацыя пакуль маецца толькі ў рускамоўным варыянце, беларускамоўныя адно назвы раздзелаў. Але магілёўскія чыгуначнікі кажуць, што працэс будзе паволі ісці да поўнай беларусізацыі.

• На плошчы Якуба Коласа ў гонар класіка з’явілася незвычайная лаўка «Дрэва натхнення». Металічная канструкцыя спалучае месца для чытання і паліцу з кнігамі. Тут можна не толькі пачытаць творы Якуба Коласа, але і паслухаць іх, падлучыўшы навушнікі да прайгравальніка. Урыўкі з твораў гучаць у выкананні народнага артыста Беларусі, артыста Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Генадзя Аўсяннікава. Гэта фрагменты трылогіі «На ростанях», паэм «Новая зямля» і «Сымонмузыка», а таксама вершы — «Я хачу аб табе…», «На рэчцы зімою», «З Рабіндраната Тагора». Аб’ект стварылі сумесна Мінгарвыканкам, «Мінскрэклама» і публічныя бібліятэкі, прымеркаваўшы падарунак да Дня горада і Дня беларускага пісьменства ў межах праекта «Я Мінск».

• Новыя шыльды з назвамі вуліц усталёўваюць у Міры. На іх гістарычныя найменні суседнічаюць з сучаснымі: Ленінградская і Завальная, Маскоўская і Глухая, Піянерская і Падол, або Бровар. Усяго будзе ўсталявана 76 шыльдаў, вырабленых за сродкі музея «Замкавы комплекс “Мір”», на 17 вуліцах. Мясцовае насельніцтва ставіцца да змен станоўча: некаторыя нават прапануюць заплаціць за шыльды, якія прымацоўваюць да іх дамоў. Гістарычныя назвы вуліц дырэктар музея Вольга Папко аднавіла дзякуючы дзвюм мапам Міра XIX стагоддзя, знойдзеным у лютым гэтага года ў Фэдэральным архіве нямецкага горада Кобленца. Копіі гэтых мапаў, раздрукаваныя на вялікіх шчытах, таксама з’явіцца ў цэнтры Міра.

# Славуты і незнаёмы

Мы прызнаём **вызначальнасць асобы Францыска Скарыны** ў культурнай прасторы славянства, яго слынную першадрукарскую дзейнасць у гісторыі беларускага кнігадруку, яго магутны творчы патэнцыял і аўтарскае друкаванае слова, але так сталася, што па сённяшняе XXI стагоддзе не ўдастоіліся гэтыя творы надрукаваць на зразумелай сучаснаму чытачу беларускай мове. (Першае выданне яго аўтарскіх тэкстаў — прадмоў, пасляслоўяў… — у 1969 г., другое — у 1990-м — было на старабеларускай мове, цяжка зразумелай сучаснаму чытачу.)

Па сцвярджэнні беларускіх даследчыкаў, Скарына карыстаўся прынцыпам білінгвізму (двухмоўя) — сінтэзам старабеларускіх і царкоўнаславянскіх элементаў з перавагай апошніх. Старабеларуская мова скарынаўскіх тэкстаў, нават адаптаваная фонаграфічна, не дае, на жаль, сучаснаму чытачу магчымасці зразумець дакладнасць слоў і думкі беларускага гуманіста, які ўжываў кірыліцу. А якраз там, у арыгінальных літаратурных творах Скарыны, закладзены яго запаветныя думкі, звароты да сучаснікаў і да нас, яго нашчадкаў: «*...людзям паспалітым для добрага навучання*». Ці ведаем мы ўсё гэта? Ці карыстаемся спадчынай славутага беларуса? Ці цэнім паводле значэння? Магчыма, што не ведаем, не карыстаемся з банальнай прычыны: няма як спазнаць… Атрымалася, што, па сутнасці, мы **Скарыну не ведаем**. Чуем толькі агульнакампліментарныя пра яго слоўцы.

Калі сёння найперш падкрэсліваем і ставім у заслугу Скарыне яго першадрукарства, тым самым, як казалі ў народзе, «ставім воз паперадзе цягла». А ці не павінна быць спераду яго арыгінальная духоўна-асветная літаратурная творчасць, у якой ён раскрыўся як велічная асоба ў гісторыі еўрапейскай рэлігійнай культуры XVI стагоддзя, і творчасць, якую ён пакінуў нам у найкаштоўнейшую спадчыну? 22 прадмовы і 25 сказанняў да выдадзеных на працягу 1517 — 1525 гг. кніг Біблії, тры вершы, два гімны, пасхалія з «Малой падарожнай кніжкі» 1522 г. і больш за 60 пасляслоўяў да асобных выданняў, — спадчына, пагодзімся, немалая нават па колькасці.

**Скарына — наш духоўны асветнік, гуманіст**. Засведчым: духоўны! Гэта па-першае. І, па-другое, першадрукар, філолаг, перакладчык, мастак-графік, наватар усходнеславянскай кнігі, пачынальнік новых відаў літаратурнай творчасці, вучоны-энцыклапедыст, доктар свабодных навук і медыцыны. Друкарства ж — усяго толькі сродак, інструмент. Мы ж цэнім будаўніка не за тое, што ён мае кельню, а за тое, што, карыстаючыся ёю, ажыццявіў сваю задуму — узвёў цудоўны палац для шчаслівага ў ім пражывання.

Творчая мэта жыцця Скарыны — данесці да простага люду выратавальныя каштоўнасці хрысціянства, закладзеныя ў Бібліі.

Святое Пісанне, якое прапанаваў Скарына чытачам, паводле яго слоў: «*...дадзена для навучання, удасканалення духоўнага і цялеснага, для добрых паводзін: каб мы кіраваліся Словам Божым Старога і Новага Запаветаў, дзеяннямі святых айцоў і павучаннямі прамудрых настаўнікаў» (прадмова да Псалтыра).*

Больш дзейснага спосабу духоўна-маральнага ўдасканалення чалавека не існуе, як удасканаленне праз духоўна-маральны кодэкс хрысціянства. Гэта пацвярджаецца 2000-гадовым існаваннем хрысціянства ў свеце. Якраз ва ўдасканаленні чалавека, у збаўленні яго ад заган (грахоў) і здатнасці дабрадзейства праз выяўленне любові да бліжняга і дальняга Скарына бачыў рэальнасць захавання чалавека і чалавецтва.

Толькі глыбока веруючы чалавек, знаны біблеіст, перакананы хрысціянін, душой аддана Хрысту, Вучэнню, можа зразумець Скарыну і зрабіць дакладны пераклад яго аўтарскіх твораў на сучасную беларускую мову. Бо адным толькі цвярозым розумам не зробіш лепш, як зрабіў навуковец А. Ф. Коршунаў («Францыск Скарына. Творы: Прадмовы, сказанні, акафісты, пасхалія». Мн., 1990). Вялікі яму дзякуй і за тое. Бо з 1990-га не з'явілася аніводнага лепшага. У Коршунава мова Скарыны не перакладзена са старабеларускай, а толькі злёгку адаптавана фонаграфічна для магчымасці намінатыўнага прачытання кірыліцы. Але, на жаль, далёкая для разумення…



Старонкі з кнігі Францыска Скарыны.

**Леанід КАЧАНКА**

## ПАСЛЯДОЎНІКІ СКАРЫНЫ

Нягледзячы на тое, што існуе заклік да ўсіх вернікаў свету, да ўсіх хрысціянаў, *«каб яны былі адно… і ніхто з іх не загінуў… каб яны мелі радасць… у сабе поўную…» (Ін. 17:11-13)*, існуюць прыкрыя багаслоўскія супярэчнасці, што прывялі да падзелу хрысціянства на канфесіі. Калі не прымаць іх да ўвагі, а вызначыць галоўнае, што ў іх ёсць і што аб'ядноўвае, дык галоўным будзе — **Біблія!** «Кніга кніг», «Кніга жыцця і на ўсё жыццё», бо мэта яе, паўторымся, — духоўна-маральная дасканаласць чалавека і чалавецтва, без чаго не можа быць міралюбнае і шчаслівае існаванне.

Разумеючы гэта і будучы перакананымі вернікамі, падзвіжнікі духоўнай асветы чалавецтва пераклалі Біблію на тысячы моў свету!

У беларусаў першым такім падзвіжнікам быў **Францыск Скарына** (1490 — 1551). Ён не толькі пераклаў тэксты 23-х кніг Біблії на старабеларускую мову, але здолеў надрукаваць, што было выключна складанай справай, і распаўсюдзіць іх.

Паводле Скарыны, галоўнае ў жыцці ёсць любоў, бо любоўю будуецца сумеснае жыццё на зямлі, бо з любові нараджаецца вера і ўся духоўная і матэрыяльная культура. Гэтую ідэю славянская душа, схільная да спачування і дабрыні, успрыняла гістарычна ад Біблії, ад хрысціянства. Біблейскія запаведзі любові ды прадказанне «новага неба і новай зямлі» сталіся духоўнай асновай нацыянальнай ідэі славян. Змест і сэнс гэтай ідэі палягаюць у словах апошняй біблейскай кнігі, у Апакаліпсісе: *«Гэта скінія Бога з людзьмі, і Ён будзе жыці з імі, і яны будуць Яго народам» (Адкр. 21: 3)*. Словы ў поўнай меры тычацца і Беларусі. Беларусі сучаснай і будучай.

Дабрамысную эстафету Скарыны падхапілі паслядоўнікі розных часоў, якія зрабілі аўтарскія пераклады Святога Пісання на існуючую беларускую мову: Васіль Цяпінскі *(Евангелле, 1570 г.)*, Антон Луцкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Пётр Татарыновіч, Ян Станкевіч, Архіепіскап Мікалай (Мацукевіч), Ян Пятроўскі, Міхась Міцкевіч, Васіль Сёмуха, Уладзіслаў Чарняўскі, Анатоль Клышка *(Новы Запавет, 2014 г.)*. Кожны з іх здзейсніў высакародную справу.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# СА СПАДЗЯВАННЕМ НА ПОЛАЦКІЯ СУСТРЭЧЫ



Аднойчы, падчас аднаго выступлення перад мінскімі школьнікамі, нехта мне праслаў запіску: «Вы так хораша і натхнёна расказвалі пра свой родны Полацк… А чаму ж тады з'ехалі адтуль?»

Шчыра кажучы, пытанне не было нечаканым. Памятаю, лепшы сябар дзяцінства, з якім мы гадзінамі гулялі па вулках роднага горада, нават мякка папракнуў, маўляў, ты з'язджаеш, а я тут застаюся. Ды ў кожнага свая дарога, свой лёс, і, ад'язджаючы ў сталіцу, я вёз у душы свой Полацк і ягоную славу, якой шчыра хацеў дзяліцца тут, у некалі памежным паселішчы Полацкага княства, якое стала цудоўнай сталіцай маёй краіны і дзе мне выпаў лёс жыць і працаваць.

«Вось дзеля таго, каб вам расказваць пра пачатак беларускай дзяржаўнасці, каб шырыць веды пра нашу слаўную гісторыю і дзяліцца з вамі пачуццямі пра свой родны горад», — прыблізна так адказаў я тады. І гэта праўда, бо пытанне такога кшталту было няпростым у свой час: мне і дагэтуль сняцца полацкія сны, дзе я блукаю па ціхіх полацкіх вулках, стаю на стромкім беразе Палаты перад царкsurvive Спаса, заснаванай самой Ефрасінняй Полацкай, спускаюся ў сутарэнні велічнай Сафійкі… У гады майго дзяцінства пра гісторыю роднага горада мы ведалі мала. У краязнаўчым музеі, куды настаўніца нас вадзіла малых, галоўнымі экспанатамі былі чучала вялізнага сома, якога некалі злавілі ў Дзвіне, і гусарскія мундзіры салдат і афіцэраў 1812 года. Яшчэ мы ведалі пра Чырвоны мост, дзе ў тыя ж часы была крывавая бітва рускіх воінаў з французамі, ды што ў памяшканні дзіцячай бібліятэкі, куды я бегаў ледзь не кожны дзень, быў дамок Пятра першага і вядомы кожнаму жыхару магутны вал Івана Грознага.

Я марыў пра далёкія падарожжы, нязведаныя цікавыя мясціны, пра караблі і акіяны, і мой ціхі драўляны горад здаваўся сумным і нецікавым. Ды вось аднойчы, калі я быў у класе чацвёртым, трапілася кніга невядомага аўтара «Славен город Полоцк». І я быў проста ашаломлены тым, што прачытаў пра родныя мясціны. Як на сёння, у ёй было нямала гістарычных памылак, павярхоўнасці, але для мяне гэта быў пачатак усведамлення прыналежнасці да славы свайго ціхага месца, захаплення полацкай гісторыяй.

Я стаў шукаць усё, што напісана пра гісторыю Бацькаўшчыны, і шчыра радаваўся, калі знаходзіў упамінанне пра Полацк, князя Усяслава, манаха Сімяона, які паехаў у Маскву вучыць царскіх дзяцей, пра Скарыну, што выдаў у Празе першую кнігу славянскімі літарамі… Пра Ефрасінню ні гаварыць, ні пісаць тады было няможна, бо доўгі час нас пераконвалі, што гэта цемрашалка і што яе шануюць толькі непісьменныя бабулі ды манашкі.

З гадамі і ў Полацку ўсё часцей сталі гаварыць пра ўласную гісторыю, і дзякуючы навукоўцам і пісьменнікам у горад вярнулася постаць першадрукара Францыска Скарыны, які сам не забываўся ніколі нагадаць, скуль ён родам, і дзякуючы якому на абсягах Еўропы загучалі словы «са слаўнага места Полацка».

Я ўсё гэта гавару да таго, што хоць і змяніліся часы і мы ўжо шмат ведаем і чытаем пра Полацк, Скарыну, але адраджаць полацкую славу, ганарыцца яго гісторыяй, далучаць да яе шматлікіх аматараў — гэта вялікая і значная работа.

Істотнай нагодай, безумоўна, стане чарговае свята беларускага пісьменства, пяцьсотгоддзе беларускага кнігадрукавання.

Свой зямляцкі і грамадзянскі абавязак бачу ў тым, каб далучыцца да высілкаў асоб, што шчыра зацікаўленыя, каб не толькі ў час будучых святкаванняў слава Полацка прыцягвала суайчыннікаў і гасцей, каб штодня дзяліцца ёю з творцамі розных краін.

Так нарадзілася ідэя правядзення міжнароднага форуму «Полацкія сустрэчы» з запрашэннем вядомых творцаў і навукоўцаў з розных краін. Падчас гэтых сустрэч можна весці размову не толькі пра мой родны горад і яго гісторыю, не толькі пра велічную постаць Скарыны, але і пра месца творцы ў сённяшнім свеце, пра высокія гуманістычныя ідэалы.

Прыемна, што гэтую зацікаўленасць і падтрымку адчуў і ў час круглага стала, што праходзіў у Нацыянальнай бібліятэцы напярэдадні Дня беларускага пісьменства ў Рагачове, на сустрэчы зацікаўленых пры абмеркаванні падрыхтоўкі да свята ў Полацку, якая адбылася ў Міністэрстве культуры. Рады, што знайшоў паразуменне ў выдавецкім доме «Звязда», у Беларускім фондзе культуры, спадзяюся на спрыянне і падтрымку іншых асоб і арганізацый, звязаных у першую чаргу з міжнароднымі стасункамі нашай дзяржавы.

Добрым прыкладам будучых сустрэч можа стаць славуты Ісыкульскі форум, які пачынаўся па ініцыятыве сусветна вядомага пісьменніка Чынгіза Айтматава. Не праводзячы ніякіх, крый божа, аналогій, галоўны пасыл такіх сустрэч можа быць у тым, каб далучыць аўтарытэтных і вядомых творцаў да нашай культуры, каб пазнаёміць з тым, чым мы па праве ганарымся, каб наладзіць цесныя сяброўскія стасункі, каб прапагандаваць у свеце нашу нацыянальную літаратуру. На гэта ўсе памкненні і спадзяванні.

# РАЗВАГІ З НАГОДЫ… УЗНАГАРОДЫ

## ЛУНАЎ ДУХ ПЕРШАДРУКАРА

Выдатна, што ў нас ёсць такія святы, як Дзень беларускага пісьменства. Здаецца, больш нідзе такія свайго роду літаратурныя дажынкі не праводзяцца. А гэта ж магчымасць падсумаваць вынікі чарговага творчага года, засяродзіўшы ўвагу і на творчым жыцці пэўнага рэгіёна. І кожнае чарговае свята — па-свойму адметнае. Сёлетняе ж па правядзенні, арганізацыі, несумненна, адно з самых лепшых. Кажу гэта, не толькі адштурхоўваючыся ад таго, што пабачыў на свае вочы. Балазе, магу параўнаць з некаторымі папярэднімі святамі беларускага пісьменства. Бываю на іх пачынаючы з горада Камянца. А гэта ж, самі разумееце, колькі яркіх, цікавых, запамінальных мерапрыемстваў. Пералічваючы іх, няцяжка і збіцца.

Не магу сказаць, што і ў іншых гарадах не было нічога такога, што б не пакінула ў душы глыбокі след. Было, яшчэ колькі было! Але свята пісьменства ў Рагачове ўразіла ўжо тым, што адначасова стала і своеасаблівай рэпетыцыяй перад святам наступным, якое пройдзе ў Полацку. Сам дух Скарыны лунаў у Рагачове. І так шмат гаварылася пра любоў да слова роднага, слова беларускага. Да нацыянальнай літаратуры. Нагадвалася пра тое, як неабходна шанаваць матчыну мову. Падкрэслівалася, як важна, каб да яе далучаліся юныя чытачы. І яшчэ адна тэма гучала — тэма неўміручага подзвігу народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, якая, як вядома, у нашай літаратуры па-ранейшаму адна з важных. Інакш і быць не можа. Вялікая Айчынная вайна — гэта і наша памяць, і наш боль, і наш гонар за свой народ, які не скарыўся нямецка-фашысцкім захопнікам. Таму ў экспазіцыях, арганізаваных вядучымі выдавецтвамі, і суседнічалі кнігі пра вайну з выданнямі, што расказваюць пра самога Францыска, пра час, у які ён жыў, пра важкія набыткі першадрукара і мысліцеля.

## ПРЭМІІ — ГЭТА ЦУДОЎНА, ТОЛЬКІ…

Само ж прысуджэнне нацыянальных літаратурных прэмій — гэта яшчэ адно яскравае сведчанне таго, наколькі наша дзяржава з разуменнем ставіцца да развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства. Стараецца заўважаць тых, хто дамагаецца лепшых творчых набыткаў, найперш падтрымлівае такіх літаратараў. Кнігадрукаванню надаецца вялікая ўвага. За гэта нельга не сказаць «дзякуй» і Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь, асабіста міністру Ліліі Ананіч, таксама кіраўніцтву Саюза пісьменнікаў Беларусі на чале са старшынёй Мікалаем Чаргінцом. Штогод дзесяць найменняў кніг сучасных аўтараў выходзяць для бібліятэк з поўным дзяржаўным фінансаваннем, многія сацыяльна значныя кнігі выдаюцца з дзяржаўнай датацыяй. Гэта таксама спрыяе далейшаму развіццю літаратуры, з'яўленню новых цікавых твораў.

Не буду згадваць тых, хто стаў сёлетнімі лаўрэатамі Нацыянальнай літаратурнай прэміі. Іх імёны ўжо добра вядомы. Для мяне асабіста прысуджэнне такой высокай узнагароды ў намінацыі «Лепшы твор прозы» за кнігу «Цяпло колішніх вогнішчаў» — найвялікшая радасць. Вельмі ўдзячны тым, хто сваімі віншаваннямі гэтую радасць, па сутнасці, падзяліў са мною. Дарэчы, гэта не першая кніга маёй прозы. Выйшлі таксама мастацка-гістарычныя аповесці «Рагнеда і Рагнедзічы», «Нежность звёздного неба», «Ангел и без крыльев — ангел», гісторыка-прыгодніцкі раман «Жаркое солнце Эфиопии» (у дзвюх кнігах). Радуюся і за ўсіх тых, хто таксама адзначаны гэтай высокай узнагародай. Прэміі ж, як вядома, былі прысуджаны ў сямі намінацыях.

Хацелася б, аднак, выказаць і пажаданне наконт прысуджэння Нацыянальных літаратурных прэмій. Як быццам не абыдзены ўвагай асноўныя літаратурныя жанры. Але я невыпадкова сказаў «як быццам». Па маім разуменні, няблага было б увесці яшчэ дзве намінацыі: «Краязнаўства» ды «Сатыра і гумар». Як было тады, калі прысуджалася літаратурная прэмія «Залаты Купідон». Апошнім часам краязнаўства, а калі глядзець шырэй — радзімазнаўства, у нашай краіне, у нашай літаратуры развіваецца вельмі паспяхова. Гэта і нядзіўна, бо створаны ўсе ўмовы для лепшага — глыбокага і ўсебаковага — пазнання багатай нацыянальнай гісторыі, для адкрыцця імёнаў тых, хто ў розны час працаваў як на карысць сваёй Радзімы, так і на карысць іншых народаў, іншых краін. Штогод выходзіць шмат кніг па краязнаўчай тэматыцы. Сярод іх нямала цікавых, якія могуць прэтэндаваць на Нацыянальную літаратурную прэмію. Таму ёсць каго заўважаць. Як і ёсць каго адзначаць.

Праўда, сёй-той можа мне запярэчыць. Але ж падобная літаратура трапляе і пад намінацыю «Публіцыстыка». Яно ж так, аднак і кніг публіцыстыкі выдаецца нямала. Таму асобная прэмія за краязнаўчую літаратуру ніяк не будзе лішняй. Толькі на карысць пойдзе і прэмія ў намінацыі «Сатыра і гумар». Сатырыкаў, гумарыстаў у нас таксама нямала, дый твораў, аўтары якіх вартыя заахвочвання, нямала. У гэтым упэўніваешся і чытаючы часопіс «Вожык».

## ЧЫМ ВАБНЫ ДЛЯ НАС САВЕЦКІ ЧАС

Прыемна, што шмат робіцца дзеля адзнакі аўтараў лепшых кніг і ў абласцях. У кожнай прысуджаюцца літаратурныя прэміі. За кошт мясцовых бюджэтаў выдаюцца як кнігі асобных пісьменнікаў, так і калектыўныя зборнікі. А чаму б не пайсці падобным шляхам і ў раёнах? Няхай і не штогод, а прэміі таксама можна прысуджаць. Нават неабавязкова некалькі. Часам дастаткова і адной. Калі не штогод, то раз у некалькі гадоў. Своечасовай падтрымкай стане і выдаткаванне сродкаў на выданне



*Алесь Марціновіч.*

кніг мясцовых аўтараў. Так, прынамсі, робіцца ў некаторых рэгіёнах Расійскай Федэрацыі. Там у асобных абласцях нават пайшлі далей. Па чарзе пісьменнікам-землякам прысуджаюць літаратурныя стыпендыі.

Замахваюся на многае ў прапановах? Ды мая думка такая: як нельга эканоміць на войску, гэтаксама нельга эканоміць і на літаратуры, мастацтве, культуры ў цэлым. Балазе, наконт гэтага маю вельмі павучальны прыклад. У маёй асабістай бібліятэцы ёсць кніжка Міхася Модэля «Ларыса Пампееўна Александроўская». Не такая і аб'ёмная. Разам з ілюстрацыямі да двух улікова-выдавецкіх аркушаў. Мне могуць запярэчыць: што тут незвычайнага? Выдалі нарыс пра адну з самых знакамітых нацыянальных спявачак. Але ж выйшла гэтая кніжка ў 1945 годзе. Калі быць дакладным, то падпісалі яе ў друк 6 верасня таго ж 1945-га. Толькі што закончылася Вялікая Айчынная вайна. Паўсюдна разруха, нестае самага неабходнага. Ды дбала партыйнае кіраўніцтва (гэта ж толькі ад яго ў той час залежала прыняцце тых ці іншых рашэнняў) не толькі пра хлеб надзённы, але і пра хлеб духоўны. Таму і знайшло грошы на выпуск гэтай кнігі. Як і на выданне шмат якіх іншых. Наклад ажно 10 тысяч асобнікаў.

Вось вам і савецкія часы, якія знаходзяцца ахвочыя ледзь не праклінаць. Не падумайце толькі, што я збіраюся плакаць пра іх. Што было — прайшло. Я пра тое, што добрае нельга забываць. Аднак не магу не адзначыць, як тады было шмат плакальшчыкаў сярод творчай інтэлігенцыі. Што ні рабілася, абавязкова знаходзіліся незадаволеныя. Не задавальняў іх і малы наклад «ЛіМа», а ён жа да так званай перабудовы дасягаў недзе каля 13 тысяч асобнікаў. Але ўсё адно лічылася, што гэта мала. Таму шмат увагі ўдзялялася падпісцы.

З такім заданнем, як памятаю, накіраваў мяне ў Магілёў і тагачасны галоўны рэдактар «ЛіМа» Алесь Асіпенка. Загадаў Алесь Харытонавіч перагаварыць з начальнікам магілёўскага абласнога аддзялення «Саюздруку». Сказана — зроблена. Прыехаў у Магілёў, зайшоў да гэтага начальніка ў кабінет. Так і так, маўляў. «Ніякіх праблем, — пачую у адказ. — Летась было па вобласці асобнікаў, — ён назваў лічбу, — столькі ж будзе і сёлета». — «А чаму не больш?» — пытаюся. — «Навошта, — адказвае начальнік абласнога аддзялення "Саюздруку". — Падпішу больш, а калі ў наступным годзе не атрымаецца? Сам сабе праблему зраблю».

## ЖАНОЧЫ АНДАРАК І… КРЫТЫКА

Ды я крыху ўбок адышоў ад тэмы размовы. Хоць гледзячы як да ўсяго ставіцца. Канечне, плакацца не трэба, але і нельга да таго, што адбываецца, заставацца абыякавым сузіральнікам. Як любіў казаць мой сябра Алесь Пісьмянкоў: «Няма мяжы дасканаласці». У дадзеным выпадку імкненне да дасканаласці — гэта жаданне рабіць усё магчымае (і нават, здавалася б, немагчымае!), каб гэта было на карысць агульнай справе, на карысць літаратуры. Нямала залежыць і ад крытыкі. Паколькі і сам працую на гэтай ніве, то крыху слоў наконт гэтага.

Для мяне прымальная толькі прадуманая, узважаная, разумная крытыка, а не аглабляльная, пры дапамозе якой некаторыя аўтары зводзяць асабістыя рахункі. Ці хочуць тым самым звярнуць на сябе ўвагу, засвяціцца. Глядзіце, маўляў, які я! Аднак разам з тым я, пра што ўжо казаў неаднойчы, супраць таго, каб узвальваць на крытыку віну за ўсе нашы творчыя беды. Ніхто нікога пісаць яшчэ не навучыў, дый, я ўпэўнены, не навучыць. Можна нешта падказаць, а ў астатнім — талент ці ёсць, ці няма.

У нас жа як атрымаецца? Калі штосьці не так, дык гэта крытыкі вінаватыя. Атрымліваецца сітуацыя, падобная да той, якую нярэдка пераказваюць як своеасаблівы анекдот. Ужо і запамятаваў яго цалкам, але сутнасць такая. Неяк у сялянскай хаце нявестку папракнулі за нешта, да чаго яна не мела ніякага дачынення. «Дык яе дома няма», — запярэчыў хтосьці. «Няма? — здзівіўся хтосьці іншы. — Дык вунь як андарак вісіць».

Тым не менш нельга забываць пра адказнасць крытыкаў. Да іх як ні да каго іншага стасуецца вядомае выказванне: «Не нашкодзь!». Гэта датычыць як празмернага захвальвання, так і беспадстаўнага ганьбавання. Хоць апошнім часам сёй-той з крытычнай брацці ідзе іншым шляхам. Пісьменнікі, якія ім нечым не падабаюцца, проста замоўчваюцца. Гэта датычыць як іх кніг, так і публікацый у перыёдыцы. Нават тады, калі і вельмі знакамітыя аўтары, іх творчасць агульнапрызнаная. Наконт гэтага можна сказаць толькі так: нізкая культура ў тых, хто ўяўляе сябе творчым суддзёй. А таму і нізкая, што на нялёгкай, няпростай крытычнай ніве часам працуюць людзі выпадковыя, элементарна не начытаныя.

У крытыцы ж, як ні ў якой іншай сферы творчай дзейнасці, неабходна абапірацца на досвед папярэднікаў. Тым не менш… Сумняваюся, што маладыя аўтары, якія з усёй катэгарычнасцю павучаюць ці не ўсіх, як трэба пісаць, пры гэтым не забываюць узводзіць ці не ў ранг «класікаў» тых, хто ім імпануе (а гэта, як правіла, літаратары, найперш паэты, з іхняга творчага асяродку), ведаюць, што сказаў пра крытыкаў і крытыку Міхась Стральцоў, які, як вядома, быў не толькі майстрам у прозе, паэзіі, а і чуйна ставіўся да сучаснага яму літаратурнага працэсу.

Міхась Лявонцьевіч неяк пісаў: «Сапраўдныя крытыкі — рэдкая з'ява. Крытык павінен быць публіцыстам, мастаком, літаратуразнаўцам. Вядома, што ў лепшым выпадку. Але тады ён будзе як мысліць літаратурным працэсам, так і перажываць яго. Тое і другое неабходна».

Такім крытыкам М. Стральцоў быў і сам. Крытыкаў, які ўнутрана перажываў сучасны літаратурны працэс, каб далучыць да найбольш значных яго з'яў чытача. Пра гэта ні ў якім разе нельга забываць. Мала таго, неабходна вучыцца ў майстра. Каб жа вучыцца, трэба чытаць. І не аднаго М. Стральцова, але і іншых, хто пакінуў у нацыянальнай крытыцы і літаратуразнаўстве глыбокі след. Дый не лішне перагортваць кнігі тых, хто па-ранейшаму плённа працуе на такой адказнай творчай ніве. Не стану называць іх прозвішчы. Па той простай прычыне, што каго-небудзь можна і не назваць, а гэта выкліча крыўду.

Самае ж галоўнае ў тым, што нельга пісаць пра літаратуру, не любячы яе. Ісціна нібыта і банальная. Толькі сама рэчаіснасць сведчыць адваротнае. Згушчаючы фарбы? Як сказаць… Тыя, хто прыкладна ў адзін час са мной пачаў выступаць у друку, займаліся гэтым яшчэ з гадоў студэнцтва. Паступова адольвалі прыступку за прыступкай. І, канечне, шмат чыталі. На жаль, цяпер такога няма. Ва ўменні пісаць маладым аўтарам не адмовіш, але не сказаць, каб яны займаліся справай усур'ёз. Ва ўсякім разе, гэта відаць па шмат якіх публікацыях. Асабліва па тых, дзе робіцца спроба прааналізаваць творчасць таго ці іншага аўтара за пэўны перыяд. Уражанне такое, што напісанае ім яны проста не чыталі. Згодзен, што ўсё не прачытаеш. Дык зазірніце хоць бы ў Нацыянальную бібліятэку. Там ёсць усе кнігі сучасных аўтараў. Ды дзе там…

***

Завяршэнне маіх разваг атрымліваецца сумнаватае. Таму хопіць разважаць пра тое, чаго няма. Лепш яшчэ раз нагадаю пра тое, што ёсць. А ёсць у нас цудоўная літаратура. Ёсць дзяржаўны клопат пра яе развіццё. Застаецца працаваць і працаваць! Тым больш што наперадзе такое важнае свята — 500-годдзе нацыянальнага кнігадрукавання, пад знакам якога і пройдзе чарговае свята беларускага пісьменства. Слаўны горад Полацк, бацька гарадоў беларускіх, месцам правядзення яго абраны невыпадкова. Гэта тая жыватворная духоўная крыніца, да якой далучацца не толькі нам, але і нашым нашчадкам.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «Сузор'і росныя планет...»

**Зборнік выбранай лірыкі Генадзя Пашкова «Парад планет» (2016) выйшаў у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Асацыятыўная сувязь названай астранамічнай з'явы і паэзіі — у асэнсаванні паэтам сваіх лепшых здабыткаў, лірычных «планет», за апошнія сорак чатыры гады.**

Побач знаходзяцца арыгінальныя тэксты і іх перастварэнні на рускую мову вядомымі перакладчыкамі — Іванам Бурсавым, Міколам Шабовічам, Генадзем Аўласенкам, Анатолем Аўруціным, Браніславам і Вадзімам Спрынчанамі і інш. Трэба адзначыць высокае майстэрства перакладчыкаў, іх тонкае адчуванне лірычнай стыхіі. На прыкладзе верша «Любай» Г. Пашкова ў перакладзе Браніслава Спрынчана бачым высокую ступень мастацкага супадзення арыгінала і перакладу. Перастваральнік захаваў лаканізм страфы, але пры гэтым вярнуў для чытача традыцыйны выгляд чатырохрадкоўя, парушаны аўтарскай вольнасцю. Не літару, а дух данёс Б. Спрынчан, крыху адступіўшы ад першаўзору:

*За мукі, за слёзы*
*каго мне ўшчуваць?*
*Ці дзякаваць лёсу,*
*ці лёс дакараць,*

*як хмельна-салодка*
*у зорнай цішы*
*стыхіі паводка*
*бушуе ў душы?*

*И радость, и слёзы,*
*и смутные сны,*
*как в сердце занозы*
*на грани весны.*

*Вчера и сегодня,*
*преграды круша,*
*как половодье*
*рокочет душа.*

Вобразы нябесных цел, касмічная тэматыка з'яўляюцца ў першым жа вершы зборніка — «Яблыня». Тут, у спелым садзе «на яблынях заружавелі / сузор'і росныя планет». На Яблычны Спас лірычны герой Г. Пашкова глядзіць на зоры — і адчувае еднасць са светам, зямным і касмічным. Бачыць, чуць жыццё, прыроду ва ўсіх колерах, гуках, водарах — крэда паэта. Таму і ўспрымаюцца такія вершы яскрава-панарамна. Нібы мастак-імпрэсіяніст, Г. Пашкоў шукае для няўлоўных эмоцый і станаў новыя адценні думак.

Паэт — праваднік паміж зямлёй і небам. Яго лірычны герой цягнецца душой да зор, а сам адчувае:

*Я, што дрэва, стаю,*
*і спацелае чую карэнне,*
*і на вечнае поле*
*рукі цяжкія кладу,*
*тканкай кожнай лаўлю*
*павучынкі вільготнай асенняй*
*ціхі ранішні звон і сярэбраную халаду...*

«Братам па душы», ці, скажам, па тэмпераменце, Г. Пашкоў лічыць Акіян, які можа «ўзвіцца, / да паднябесся дыбарам устаць», а можа быць спакойным («Ціхі акіян»). Дарэчы, вобразы акіянаў зямнога і касмічнага паводле іх шырокага размаху, дынамічнасці, «тэмпераменту» можна лічыць падобнымі. Разважаючы пра непазбежнасць свайго фізічнага адыходу, максімальна аўтабіяграфічны лірычны герой верыць: «Застануся толькі ў прыродзе / я пад імем вечным Шар Зямны» («На зямлі спаконвечнай»).

Думаецца, у кантэксце жыцця і творчасці Г. Пашкова ў цэлым слушна было б казаць не толькі пра біякасмічную неўміручасць, але і пра біягенетычную (кругаварот рэчываў у прыродзе, фізічны працяг у дзецях і ўнуках) і духоўна-культурную (метафізічнае «жыццё ў вершах»). Ідэю фізічнай або біялагічнай бессмяротнасці чалавека выяўляюць наступныя радкі: «Не кажы, што адпушчана мала. / Не кажы, / бо рухомай, / жывой / у нязнаных прасцягах Сусвету / будзеш вечна ты / плоццю зямной — хоць пылінай, / хоць подыхам ветру...» («Мы наіўныя людзі Зямлі...»). Быццёвая і духоўна-эмацыянальная паўната жыцця гэтага паэта — вынік яго светапоглядна-эстэтычнага крэда: «...не стамлюся бачыць і здзіўляцца, / захапляцца, / слухаць і любіць» («На зямлі спаконвечнай»), «мы прыйшлі на Зямлю, / каб любіць / і рассыпацца кроплямі сонца» («Не багата адмерана жыць...»).

Г. Пашкову дарагая яго Айчына, якую «спасціг..., як шчасце, непрыкметна», якая «...увайшла, як радасць і як боль, / легендамі дарогаў пракаветных», «...святлом, / вялікім, / бессмяротным / запаветам» («Жыву адзіным запаветам»). З асаблівай цеплынёй паэт успамінае падарунак Браніслава Спрынчана — кашулю, вышытую яго мамай, якую імяніннік успрымае як славянскі абярэг («Кашуля ад Браніслава»). Аўтар высноўвае рысы беларуска нацыянальнага характару: «Цярплівы, / мудры, адмысловы, / Вялікамучанік Народ! / Яшчэ заявіць: /




— Гонар маю! — / Хай перамучыцца спярша. / Бо ёсць бунтарная, / жывая, / ёсць чалавечая душа!» («Праз гэты час...»).

Пейзажныя вобразы малой радзімы паэта — грыбны барок, рэчка ў чаратах, вогнішча, што падтрымлівае каханая жанчына, курганок з бяссмертнікамі на ім — аб'ядноўваюцца ў творчай свядомасці Г. Пашкова ў «адну навек / Радзіму». «Налітае зарою» возера прасвятляе душу аўтара, нагадвае яму пра маладосць і пра вечнасць. Беларуская прырода набывае ў Г. Пашкова касмічныя ўласцівасці і асацыяцыі: «Зоры цярушыць на плечы / веча радзімых бяроз» («Згодна зімовае квоты...»). Нават балота ў паэта «зорнае». Як вядома, уменне бачыць незвычайнае ў звычайным уласцівае эстэтыцы рамантызму. Вобразы Айчыны ў Г. Пашкова — гэта не проста родныя краявіды. Гэта мясціны, асветленыя талентам і духам славутых людзей (Кірыла Тураўскі, Янка Купала, Пятрусь Броўка), якія нарадзіліся і жылі там («У далонях свету гарадок», «Купалаўскія гаі», «Пуцілкавічы»).

Лірычны герой Г. Пашкова апявае «ветрам спавітую» дзявочую прыгажосць, згадвае маладосць і рамантыку начных спатканняў. «І ўся зямля — / як сон, / як дзіва, / як слоў / расяны запавет, / дзе ўсё зліваецца / ў адзіна — / і ты, / і я, / і ўвесь Сусвет». Так, і ў спатканнях з дзяўчынай для паэта ёсць штосьці касмічнае, асабліва калі ў яе такія вочы, «...дзе ўсе сузор'і змесціліся ледзь». Прываблівае, з якой чысцінёй, пяшчотай лірычны герой моліцца за жанчын.

Генадзь Пашкоў спалучае рэалістычнае светаадчуванне з рысамі рамантызму і імпрэсіянізму. Самыя частыя для асэнсавання, дамінантныя ў гэтай кнізе вобразы радзімы і каханай. А галоўнай філасофскай ідэяй зборніка выбранай лірыкі «Парад планет» з'яўляецца ідэя лучнасці ўсяго з усім: зямнога з касмічным, чалавека з прыродай, чалавечых лёсаў паміж сабой, сувязь часоў — мінулага з сучасным і будучым праз перадачу духоўна-культурнай спадчыны ад продкаў нашчадкам. У «Парадзе планет», прычым як у арыгінальных вершах, так і ў іх перакладах, адчуваецца вобразна-стылёвая гармонія, гармонія моўнай стыхіі.

**Таццяна БАРЫСЮК**

# ГОРАД, ЯКОГА НЯМА?

**Пасля доўгага перапынку выйшла новая кніга Людкі Сільновай — зборнік вершаў «Горад Мілаград»**

Перад тым, у 2007 годзе, паэтэса прэзентавала «Крышталёвы сад» — кнігу літаратуразнаўчых нарысаў, якую, аднак, ацанілі інačай. Валянцін Акудовіч зазначаў: «Тут ёсць рэцэнзіі, ёсць літаратурныя партрэты. Але па сутнасці гэта не кніга крытыкі. Гэта таксама кніга паэзіі. Таму што больш нідзе вы не сустрэнеце такой крытыкі, як тут: тут увесь час адкрываюцца сусветы, а не проста расстаўляюцца літаратурныя знакі».

Новыя сусветы — гэта сапраўды пра творчасць Людкі Сільновай. Фантастычны, абаяльны і чароўны «Горад Мілаград» таму пацвярджэннем. Што цікава, па сутнасці, новая кніга перарывае маўчанне нашмат даўжэйшае за дзевяць гадоў, калі лічыць ад «Крышталёвага саду»: апошняй паэтычнай кнігай былі «Зеленавокія воі і іх прыгажуні» 2001 года.

Можна было б чакаць, што за пятнаццаць гадоў светабачанне паэтэсы змянілася. Але чаканні марныя: яе міфалагічнае бачанне сучаснасці толькі абвострылася. Свет паўсядзённасці пераўтвараецца ў набор таямнічых сімвалаў і знакаў, на якіх аўтарка й арыентуецца. Час для яе нелінейны. Тут варта казаць увогуле не пра час, а пра часава-прасторавую катэгорыю, напоўненую рэчамі, вобразамі, няўлоўнымі асацыяцыямі, якія Людка Сільнова перадае як праз яркі, насычаны сэнсам эпітэт, так і праз гукапіс. Апошні ў паэзіі Сільновай грае якраз найпершую ролю. Змест і інтанацыя, з якой той перадаецца, непадзельныя.

*Маўчыць апарат.*
*Як манах акурат —*
*Чорны, стары*
*і маўклівы.*
*Змейка ў клубок —*
*Хвост у раток —*
*Сціснула плоць*
*палахліва...*
*— Веды, вы дзе?*
*— Ў цёмнай вадзе.*
*Там, дзе туман і поўня.*
*Хваля збяжыць —*
*Мілы ляжыць*
*У глыбіні невымоўнай.*
**(«Нетэлефанаванне»)**




Што ж такое горад Мілаград? Для Сільновай гэта горад, любы сэрцу. Ён адначасова ўяўны і сапраўдны. Гэта зборны вобраз месца, дзе ты пачуваешся вольным, шчаслівым, дзе паэзія жыцця — рэч натуральная. Такая ж натуральная, як і самі творы зборніка, дзе няма ніводнага выпакутаванага радка, гэта значыць — высежанага за сталом, штучнага. Кітс быў бы задаволены.

Мілаград нечым блізкі абяцанай зямлі. Вандроўны вобраз, які ў залежнасці ад настрою можна прымераць і роднаму Маладзечна, і заснежанаму Мінску, і старажытнаму Полацку, і гораду-мары, абстракцыі, складзенай з аскепкаў усяго бачанага і перажытага. Мілаград схаваны ў сэрцы і разам з тым вакол, паўсюль. Што лагічна: бачыш тое, што маеш у сабе. «Кожны чалавек носіць сваё неба з сабой». Выслоўе Караткевіча, якое надзвычай пасуе Людцы Сільновай.

Пад гэтым небам адбываюцца дзівосныя рэчы. Дзівосныя для чытача: аўтарка ў гэтым свеце якраз і жыве. Тое, што для нас паўстае казкай, для яе — штодзённасць. Кантраст светабачання надзвычай узрушвае ў «Горадзе Мілаградзе»: кантраст, вядома, між тым, як прызвычаўся пачуваць чытач, і рэчаіснасцю аўтара. Праз гэта вершы Людкі Сільновай адначасова зачароўваюць, улагоджваюць і трывожаць. Многія з'явы, штодзённыя рытуалы, на якія мы не звернем асаблівае ўвагі, у свеце Сільновай паўстаюць у велічным святле. Месца працы — бібліятэка — для яе адначасова і храм, і вежа, у якой можна перачакаць аблогу трывогі ці клопату, з якой свет бачны шырэй, панарамна. Кубак кавы раніцай нараджае ледзьве не оду духмянаму напою. Але гэта больш чым узвышэнне простых рэчаў з мэтай пазбегнуць манатоннасці будняў. На эскапізм Людка Сільнова дакладна не пакутуе.

Скажам так: яна не паэтызуе жыццё штучна. Жыццё для яе і ёсць паэзія. Паэзія ёсць жыццё.

Для рэцэнзіі, магчыма, выказванне занадта пафаснае ці ўвогуле пустое. Трэба прайсці ўвесь шлях, ад раздзела «Урбаніка» да мініяцюр «Сняжынкі», каб зразумець, наколькі гэта праўдзіва, наколькі высокае ў аўтаркі бачанне свету, — і шчыра падзівіцца.

Калі пэўны аўтар звяртаецца да гістарычных вобразаў, уводзіць міфалагічныя матывы ў твор, часцей за ўсё вынік успрымаецца як стылізацыя. Якасная, вытанчаная, яркая — якая заўгодна, але стылізацыя. Вы адчуваеце, што пісаў сучасны чалавек, апераруючы сродкамі сваёй даўніны. У выпадку з «Горадам Мілаградам» усё інакш: воі, мячы, вятры, ваўкі, верасы на пагорках, прыўкрасныя дзевы ў казачным антуражы — усё гэта не эксперымент, не свядома абраны «інструментарый», але адзіна магчымы вобразны шэраг для паэта. Людка Сільнова дае чытачу ўнікальную магчымасць (раскошу, як бы сказала) адчуць, што ў ім жыве не толькі памяць пра слаўную мінуўшчыну: самая мінуўшчына — жывая. Мы і ёсць тыя самыя воі, тыя самыя пані, і нашыя гарады — адбіткі недасяжнага ў нечым Мілаграда. Гэта наводзіць на роздум, а ці не падзяляе Людка Сільнова ідэалістычныя погляды Платона, у якіх прызнаецца вышэйшым свет ідэй і ніжэйшым свет матэрыяльнага? «Горад Мілаград» набліжае гэтыя светы адно да аднога, пераносіць вечныя ідэалы на грубую, як нам здаецца, глебу сучаснасці.

У сваёй паэзіі Людка Сільнова перасягнула мяжу часу і мяжу ўмоўнасцей. Нізкага і высокага больш не існуе: любая рэч — дзіва, падарунак, які мы проста не ўмеем разгарнуць. Як няма мінулага і будучыні: ёсць толькі чалавек і яго свет, непарыўнасць часу, вечнасць і ўсё ў ёй — душа.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Францішак Аляхновіч:
## «новая драма» ў жыцці і на сцэне

**Сучаснасць не ацаніла яго дастаткова — нават асудзіла, выкрасліла. Нядаўняя крытыка, яшчэ 1990-х гадоў, лічыла неглыбокім і другасным аўтарам, месца якому хіба ў архівах літаратуры. Толькі крытыка канца мінулага стагоддзя — пачатку XXI-га паглядзела на аўтара непрадузята...**

### ЧАС НОВАГА ПОГЛЯДУ

У сувязі з Аляхновічам мы можам гаварыць пра традыцыі аўтарскай версіі сюжэта («Чорт і баба», «Птушка шчасця»). Бадай, упершыню — пра сіквэл у драматургіі («Заручыны Паўлінкі» з прысвячэннем Янку Купалу). Пра распрацоўку «новай драмы», эстэтыку дэкадансу, рэфлексіі на экзістэнцыяльныя тэмы, пра з'яўленне тэмы нацыянальнага гарадскога інтэлігента. Ён асэнсавана далучаў нацыянальную літаратуру да плыняў сусветнага тэатральнага мастацтва. А можа, супрацьстаяў спрашчэнню беларускай культуры да лапцей і сахі?

Прыйшоў час новага прачытання гісторыі нацыянальнай літаратуры, без ідэалагічнай заангажаванасці, праз прызму асобы. Чакаюць новага погляду і несавецкі Францішак Аляхновіч, і «правільна савецкі» Андрэй Макаёнак.

У пачатку XX стагоддзя, пасля кароткага перыяду, ахрышчанага вульгарызатарскай крытыкай як нацдэмаўшчына, пачаўся дружны рух пісьменнікаў у бок «сацрэалізму». Пошукі Аляхновіча ў кірунку расколатай свядомасці чалавека памежжа, дзе персанаж — божы сірата, бездапаможны і самотны, — не прыйшліся да месца. Адна толькі ідэйная адсылка да Шапэнгаўэра і Ніцшэ выкідала аўтара з абоймы прымальных для савецкай літаратуры аўтараў. Не так даўно адмаўлялася наяўнасць традыцыі сімвалізму ў беларускай літаратуры. Пры ўважлівым вывучэнні аўтары і творы «знайшліся». Аляхновіч спрычыніўся да практычна ўсіх сучасных яму працэсаў як аўтар або даследчык.

### ВУЧАНЬ МЕТЭРЛІНКА?

Пошукі ў галіне «новай драмы» ён вёў вельмі асэнсавана. У той час, калі афіцыйная і «апазіцыйная» драматургія давала стойкі крэн на народны тэатр з яго прасталінейнай эстэтыкай, традыцыйнай сістэмай станоўчага і адмоўнага, заходнебеларускі аўтар кіраваўся на еўрапейскія эстэтычныя дамінанты канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, у якіх білася трывога і бясконцы жах перад унутраным космасам асобы, непрадказальнасцю і небяспекай знешняга свету. Літаратурны натхняльнік беларускага аўтара — Марыс Метэрлінк, што стварыў тэатр маўчання. Героі драм Аляхновіча таксама існуюць у сваіх штодзённых трагедыях, далёкіх ад маштабаў класіцыстычнай традыцыі, але нават больш жахлівых. Кожны з герояў драмы «Цені» маўчыць і пакутуе праз сваё, перажывае ўласную трагедыю, што прыводзіць да самотнай, не раздзеленай ні з кім развязкі. Нерв п'ес «Цені» і «Няскончаная драма» (1920) закранае тое, што падсвядома трывожыць у творах Франца Кафкі: рэчаіснасць як бясконцы жах, абсурд, перад якім апускаюцца рукі.

Бельгіец Метэрлінк зачараваў беларуса Аляхновіча ідэяй, што ўсе самыя буйныя падзеі адбываюцца не вакол, а ўнутры нас. Космас чалавека, які знаходзіцца ў пастаянным метамарфічным руху, здольны нараджаць новыя і новыя сусветы, а часам і пачвар. Таму смерць не з'яўляецца ў гэтай эстэтыцы трагедыяй — яна толькі пераход да нязведанага, а можа, і да абуджэння духоўных сіл і магчымасцей.

Чалавек у Аляхновіча менш абсурдны, чым метэрлінкаўскі персанаж. Аляхновіч у прынцыпе не капіруе сваіх куміраў, заходніх драматургаў Ібсэна, Пшыбышэўскага, Гаўптмана, а натхняецца імі, бярэ прымальныя менавіта для яго часткі і канструюе ўласны погляд, які не заўжды ўпісваецца ў рамкі нейкага канона. Ад Герхарда Гаўптмана ён бярэ трагізм асяроддзя і распрацоўку псіхалогіі асобы. У бунтара Станіслава Пшыбышэўскага — эксперымент з антырэалізмам і сімвалізмам, сімпатыю да высноў філасофіі Ніцшэ. Ад «настаўніка» ўсіх траіх, Генрыка Ібсэна, — сцвярджэнне дуалізму чалавечай прыроды як складанай барацьбы-суіснавання духоўнага і цялеснага, а таксама — пошукі нацыянальнага кампанента драмы.

Дэканструкцыя зыходнага матэрыялу не нараджае копіі нават паводле жанру: усе некамедыйныя творы Аляхновіча цяжка суаднесці з жанравым канонам. «Страхі жыцця», «Цені», «Няскончаная драма» маюць трагічнае гучанне, неад'емнае ад карціны часу. Дарэчы, Аляхновіч — адзін з аўтараў, што патрабуюць да сябе падыходу праз метад герменеўтыкі. Гістарычны і палітычны кантэкст часу надзвычай складаны: ваенныя катаклізмы, эпідэміі, голад, рэзкія змены палітычных кірункаў — канва, па якой клаліся нервовыя, трывожныя сюжэты. Гістарычна-культурны кантэкст неспакойнай Віленшчыны нібы падштурхоўваў да пераходу ад «папсовых» пастановак «На Антокалі» (1915), «Шчаслівы муж» (1922) — праз блізкія да народна-рамантычнай традыцыі твораў кшталту «Базілішка» (1917) — да трагічных «Ценяў».

### НА ПАМЕЖЖЫ

Свет Аляхновіча — Беларусь, чые землі пераходзілі з рук у рукі, мяняючы ідэалогіі, кароны і гербы. Не выязджаючы з роднай Віленшчыны, Аляхновіч «перасяляўся» з краіны ў краіну, з ідэалогіі ў ідэалогію. І перад кожнымі новымі ўладамі аказваўся вінаваты. То за «знявагу нябёсных сіл», то за антысаветчыну, то за працу пад акупацыяй. А чалавек проста спрабаваў выжыць.

Залежнасць ад часу і месца неаспрэчная. Але Францішак Аляхновіч асабліва ілюстратыўны аўтар у плане таго, як абставіны робяць чалавека адэптам або «дзякуючы», або «насуперак»: прыстасаванцам ці нонканфармістам. Не ідэалізуючы драматурга, варта прызнаць, што ў сацыяльным плане ён кіраваўся то адной, то іншай філасофіяй. Такі лад выжывання беларусаў апісаны ў купалаўскіх «Тутэйшых», у мрыяўскіх «Запісках Самсона Самасуя», у аляхновіцкім «Пане міністры». Відавочна, заставалася пэўная канстанта, нешта глыбіннае, што чалавек не адкрывае нікому: складанае і нябачнае жыццё душы. У яго персанажа таксама ёсць біяграфія, характар, сацыяльна закладзеная роля. Але гэта толькі абалонка, пад якой сапраўднае, недаступнае свету. Сімвал гэтай загадкавасці — Матыльда, персанаж «Ценяў», наскрозь прасякнутых духам мадэрну, сімвалізмам, дэкадансам. Да канца незразумелая яе прырода: чалавек гэта або нешта са свету ідэй, тонкіх матэрый, інфернальнага ці натрызненага. Трызненне не было чужым для літаратуры мадэрну, а тым больш дэкадансу: культ наркатычных рэчываў, змененых станаў свядомасці, гіпнатызму і спірытызму абрамляе першую трэціну стагоддзя. Гэтае новае было жарсна падхоплена Аляхновічам. Памежжы дапушчальнага, як у духоўным, так і ў сацыяльным, напаўняюць яго творы: недасказаны матыў інцэсту



*Францішак Аляхновіч.*

і вар'яцтва ў «Ценях», эгаістычня рэалізацыі жаданняў, у ахвяру якім прыносіцца сям'я («Няскончаная драма»).

Наватарства аўтара сягае настолькі далёка і смела, што ён надае персанажам не проста аўтабіяграфічныя рысы, але і дасягае ў гэтым амаль эксгібіцыяністкай шчырасці. На публіку выносяцца непрыгожыя ўчынкі з рэальнага жыцця Аляхновіча, і сам аўтар выконвае ролю неадназначнага Васіля («Няскончаная драма»). Ці то выклік грамадству, ці то спроба катарсісу праз вынясенне граху напаказ. А магчыма, і тое, што многа пазней скажа сваім «Чужаніцам» Альбер Камю: так, я такі як ёсць, так адчуваю, так жыву і ніякай маралі нічым не абавязаны.

### 1 + 1 = 1

У «Няскончанай драме» Аляхновіч прыхаваў яшчэ адзін, дагэтуль не заўважаны крытыкай, сюрпрыз: галоўныя персанажы Васіль і Костусь — два бакі адной асобы. Нават імёны іх сімвалічныя намякаюць на дуальную прыроду галоўнага героя, які хоча з'ехаць у вабны Мінск (Васіль, што значыць «цар», — эгаістычны бок асобы) і застацца з каханай (Канстанцін, «пастаянны» — пажаданы, але нерэалізаваны бок асобы). Персанаж абірае для сябе Костуся.

Фінал п'есы «Няскончаная драма» крытыка ацаніла не вельмі высока, што прадыктавана няўвагай да сінкрэтычнасці вобразаў Васіля і Костуся. Як здань у «Ценях», як уяўны сябар самотнага дзіцяці ці голас сумлення, так і Костусь увесь час быў неажыццёўленай паловай натуры, Васілём. Ён — альтэрнатыўны фінал, мода на які прыйдзе ў канцы XX стагоддзя. Варыянт у ключы «хэпіэнд». Але верагодна, што фінальная фраза гераіні п'есы пра тое, што драма яшчэ не скончаная, не прадказвае нічога добрага, толькі новыя нягоды. Такая шматварыянтнасць прачытання — сапраўдная знаходка аўтара і падстава казаць пра адкрыты фінал.

Двайніцтва персанажаў прасочваецца і ў «Ценях». Гэтая традыцыя, пачатая рамантызмам, увасобілася ў форме дыялогу-спрэчкі з самім сабой.

### НЕПАДКУПНАЯ ПАННА

Аляхновіч адзін з першых заняўся тэмай смерці, успрымаючы яе зноў-такі з розных бакоў: ад інфернальных, трагічных матываў да ўслаўлення яе як апафеозу жыцця. Яна — і няўмольная натуралістычная энтрапія, і эфектны (ці бяслаўны) фінал п'есы жыцця. Смерць — частка гульні і ў нечым сэнс жыцця. Таму выбар часу і месца ўласнага фіналу прагучаў у «Ценях» маніфестам свабоды.

Тут узнікае перагуканне твора з аддаленай па часе работай Альбера Камю «Міф пра Сізіфа» (1942), так званага маніфеста атэістычнага экзістэнцыялізму. Думка кіруецца праз даследаванне самагубства, абсурднасці існавання, а таксама праз узнятую яшчэ Фёдарам Дастаеўскім праблему "ці ўсё дазволена?" У Камю сутыкненне з бессэнсоўнасцю свету ва ўмовах "разарванай" свядомасці падводзіць да пытання, на якое трэба адказаць: ці вартае жыццё таго, каб яго пражыць у свеце, дзе бог памёр? Адказ лагічны: надзея толькі ў самім чалавеку, калі гэтае пытанне не вырашаецца праз рэлігію. Самотныя персанажы Аляхновіча не заўжды вераць і самім сабе.

З Альберам Камю сугучны Жан-Поль Сартр. На пытанне пра адносіны паміж чалавекам і абставінамі ён адказвае, што чалавек — праект, які ім самім канструюецца; жыццё не наканаванасць, а самавызначэнне. Фатум не існуе. Героі Аляхновіча згаджаюцца і пярэчаць гэтаму.

Да таго, што свабода знаходзіцца не звонку, а ўнутры, прыходзіць герой аўтара. А можа, і сам аўтар, які зведаў нягоды акупацый, войн, турмы ў Расійскай імперыі і далёка не аздараўленчага лагера ў СССР. Пераход ад разумення смерці як крока ў новую рэчаіснасць да ўслаўлення маніфестных ідэй дэкадансу ў Францішка Аляхновіча адбываецца гэтак жа заканамерна, як змяняецца эпоха. Час краху еўразійскіх імперый, на які літаратура рэагавала атмасферай разгубленасці, адзіноты, дэзарыентаванасці і вар'яцтва (сапраўднага ці сімуляванага, як у Швейка Яраслава Гашака), перацёк у час між дзвюх сусветных войн. (Наперадзе — крах Другой сусветнай вайны і пасляваеннага часу, але аўтар будзе забіты да нараджэння постмадэрну.)

Свядомасць гэтага памежжа перараджаецца па ўсіх правілах псіхалогіі чалавека, што сутыкнуўся з невылечнай хваробай ці непапраўным горам: ад адмаўлення, бунту, спробы збегчы ў ілюзорнае да прымірэння і прыняцця. Герой Аляхновіча перасяляецца ў дэкарацыі дэкадансу свядома: калі няма ратунку, калі бог памёр і няма апірышча, то чаму б не разбурыць сябе прыгожа, з вычварным шыкам, знаходзячы эстэтыку ў энтрапіі навакольнай рэчаіснасці?.. Час Першай сусветнай вайны быў сапраўдным рамам між чалавецтвам і смерцю. Яшчэ не ведаючы, што пасля Першай будзе больш жахлівая вайна, чалавецтва прасякаецца «любоўю» да смерці: паштоўкі з выявамі мёртвых, эстэтызацыя смерці, мастацтва мадэрну з віньеткамі, падобнымі да каваных агароджаў могілак... Чалавецтва ці то гуляецца з ідэяй крохкасці жыцця, ці то спрабуе падкупіць смерць. Твор Змітрака Бядулі «Срэбраная табакерка» па-свойму пераасэнсоўвае даўнюю мару чалавецтва пасадзіць смерць пад арышт. Сюжэт звольненай смерці гуляе ў сусветнай культуры, але думкі «навошта ўсё, калі жыццё абарвецца ў любы момант», робяць яго асабліва прывабным у міжваенны час.

Апошнім творам Аляхновіча будзе замаскіраваны пад традыцыйную батлеечную пастаноўку антыкультаўскі, антытаталітарны твор «Круці не круці — трэба памярці». Нібы падвядзенне выніку пасля зададзеных сабе і свету пытанняў.

Смерць бога не забівае свабоду. Тым больш што дыскусія на тэму бінарнасці-сінкрэтызму дабра і зла была выказаная Фрыдрыхам Ніцшэ менавіта ў прывязцы да часу мадэрну: «І добры боженька, і д'ябал — абодва спараджэнне дэкадансу». Народжаны мадэрнам беларускі аўтар усё жыццё ўцякае ад смерці — ці спяшаецца ёй насустрач. І яны ўрэшце сустрэліся.

**Арыя ГАТАЛЬСКАЯ**



Соф'я ШАХ

# Восень

Вянок санетаў безгаловы

**1**

*Высі шчымлівая стынь, —*
*бляклае, голае неба.*
*Зноў прызвычаіцца трэба,*
*помнячы летнюю сінь.*
*Ластаўкі ў ёй і шпакі,*
*плiскі ў ёй і жаўрукі*
*песенна адтрапяталі…*
*Пуста, — ні гэтых, ні тых,*
*бы паглынулі ўжо іх*
*зябка-маўклівыя далі.*

**2**

*Зябка-маўклівыя далі…*
*Рэшткамі летняй смугі*
*ў гнёткім бязмежжы тугі, —*
*вось чым ужо яны сталі.*
*Гэта як быццам сіло, —*
*тое й не тое свята,*
*што так дасюль спрамянялі…*
*Што згасла тоўць яны,*
*скажуць амаль без маны*
*ў рэчцы халодныя хвалі.*

**3**

*Ў рэчцы халодныя хвалі*
*бы з даўніны ў даўніну*
*коцяць адна праз адну —*
*колерам цёмнае сталі.*
*Хмурыя, скрытна-цяжкія, —*
*летам былі не такія…*
*Ох ужо гэты ўспамін!*
*Ловіць яго, і халодзіць,*
*і за сабой ужо зносіць*
*шэрая спешная плынь.*

**4**

*Шэрая спешная плынь,*
*час увасобіўшы быццам,*
*з вечных глыбіняў імчыцца*
*да векавых далячынь.*
*Што ёй вось гэта мяжа,*
*дзе побач сінь ды імжа,*
*дзе гром і ціш тэрмін мае?!.*
*Дзе — град і снег нездарма,*
*дзе, — калі выйсця няма, —*
*вецер дажджом ападае…*

**5**

*Вецер дажджом ападае,*
*шчыльна вытоптвае дол.*
*Вецер быў нібы анёл,*
*зараз жа рвецца-гайсае.*
*Што ні налёт — то прыгнёт,*
*вывертаў кругаварот*
*аж дзесьці да небакраю…*
*Стогнуць хаціны, платы,*
*горбяцца дрэвы, кусты,*
*лісце прытулку шукае.*

**6**

*Лісце прытулку шукае, —*
*ціснецца, ўецца, ляціць,*
*моршчыцца, свеціць, трымціць —*
*і на ляту астывае.*
*Валіцца долу лістота, —*
*цяжкаю стала свабода,*
*ну а паветра — чужым…*
*Гэтак жа, рост свой спыніўшы,*
*з глебаю сувязь згубіўшы,*
*травы сатлелі зусім.*

**7**

*Травы сатлелі зусім, —*
*ссохліся, сцяліся зёлкі*
*і ўжо стаяць, бы мяцёлкі,*
*з выглядам колкім, старым.*
*Толькі бадзёра відзён*
*руні жытнёвай загон, —*
*быццам бы пафарбаваны…*
*І над усім неўпрыкмет,*
*зыбіста вузячы свет,*
*пухнуць, гусцеюць туманы.*

**8**

*Пухнуць, гусцеюць туманы,*
*і пэўна не зразумець,*
*гэта ўсчынае ўжо днець*
*ці гэта вечар заспаны?*
*Гэта планета Зямля*
*явіць сябе спакваля*
*ці гэта мроіва тайны?*
*Ноч свае нетры снуе.*
*Нейк устае шчэ з яе*
*дзень мімалётны, цямраны.*

**9**

*Дзень мімалётны, цямраны,*
*напаўглухі і нямы,*
*нейк выбіраецца з цьмы,*
*ёй жа штовек і аддадзены.*
*Смутак у ім не трагічны,*
*смутак у ім ужо звычны, —*
*час яго робіць такім.*
*Мутна, замкнёна, дрымотна.*
*Золка, скарона, гаротна.*
*Свет — нібы прывідны дым.*

**10**

*Свет — нібы прывідны дым.*
*Што там — рака ці дарога?*
*Што гэта — лес ці разлога?*
*Што — занянад а ці ўздым?*
*Вось трацяць існаснасць хаткі,*
*шаты, стагі, масты-кладкі,*
*нават зямная цвярдынь.*
*Вось узнікае нанова*
*далечы кволая схова,*
*высі шчымлівая стынь.*

**11**

*Высі шчымлівая стынь, —*
*зябка-маўклівыя далі.*
*Ў рэчцы халодныя хвалі, —*
*шэрая спешная плынь.*
*Вецер дажджом ападае,*
*лісце прытулку шукае,*
*травы сатлелі зусім.*
*Пухнуць, гусцеюць туманы.*
*Дзень мімалётны, цямраны.*
*Свет — нібы прывідны дым.*

---



Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

***

*Жывы асуджанасцю страт,*
*калі і для сябе не збыўся…*
*Ўжо чую многае наўгад —*
*адрокся тым, што пагадзіўся.*
*З дня пазіраю ў нейкі век*
*за прадчуваннямі знямогі:*
*вунь там дарога без мяне,*
*а тут вось я, ды без дарогі.*
*І цень мой кінуўся ўцячы —*
*ці знік ужо, а ці знікае?*
*Душы хацеў я памагчы, —*
*сама сабе перашкаджае.*
*Ёй, сцяміўшы, не зразумець,*
*што не ў змірэнні ўсё ж змірэнне…*
*Для розуму — ізноў сумнеў,*
*для сэрца — існае цярпенне.*
*Вось на мяжы смяротных сіл*
*замест жазла мне — посах звыкла…*
*Дарогу зрокам адпусціў —*
*у той жа міг яна і знікла.*

***

*Нават і чаканнем больш не жджэш, —*
*будзе толькі тое, што чакае…*
*«Сумнявайся — і не прападзеш», —*
*хтосьці безгалосы мне ўнушае.*
*Сам сябе не навучу і я.*
*Божа, хто мне гэту дзіўнасць шэпча?*
*Чалавекам сонечным пасля*
*застануся ў памяці у нейчай.*
*На сябе ўжо зводдалек гляджу, —*
*не, не здарыцца мне цуда-спрыту…*
*Аблачын няспешную граду*
*позіркам вяртаю з-пад зеніту,*
*дзе не адгукнуцца, не пазваць,*
*дзе і вечнасць нібы анямела…*
*А вось невыказнае сказаць*
*толькі ўсё ж паэзія і ўмела.*

***

*І столькі ўсё ж пустапарожняга, —*
*так, па няўцямленай віне,*
*што плач Іосіфа Прыгожага*
*Штосьць зноўку чуецца ўва мне.*
*Скажу ў задумлівай расстайнасці:*
*нам дараванне — не дарэм...*
*Той плач, ён споўнены пытальнасці:*
*«Каму журбу сваю павем?..»*
*Я тое ўваскрашаю памяццю,*
*чым быў нямы паміж дылем,*
*і зноў пытаюся ўсёй жаласцю:*
*каму павем? каму павем?*
*Пытанні нашы бы аднакія:*
*і ён — каму? і я — каму?*
*Ды плача бацьку ён Іакаву,*
*я ж — толькі Богу аднаму.*

***

*Мо за мною стала так сачыць*
*носьбітка нябачнае трывогі?*
*Птушка над дарогаю ляціць,*
*нібы ў небе ёй няма дарогі.*
*Стала ценем сонечнага дня, —*
*адляцеўшы нат, не адлятае…*
*Ды пра што сабой усё ж яна*
*папярэджвае, нібы вяшчае?*
*Можа, мне вярнуцца, не ісці?*
*Узіраюся ад сонца слепа...*
*Слухай, птушка, адлятай, ляці, —*
*вунь табе наўсцяж якое неба!*
*Ды ізноў зямлю кранунць імкне*
*ценем крылаў, бачна поўных спрыту...*
*Ах, не кліч ты, ах, не кліч мяне, —*
*не гатоў яшчэ я да нябыту!*

***

*«Тройчы адрачэшся ад сябе,*
*покуль певень праспяваць паспее», —*
*так падумаў сам сабе ў журбе*
*ці душы, што ўсё яшчэ нямее.*
*Ад Ісуса нават Пётр і сам*
*тройчы змог да золку адмаўляцца...*
*Розуму і тое ўсё ж няўцям,*
*ў чым сабе так сорамна прызнацца.*
*Нават здрадзіць я сабе гатоў,*
*не згадзіўшыся, згаджуся следам...*
*Божа, знаю: можна зноў і зноў*
*каяцца, не каячыся ў гэтым.*
*Можна і маўклівасцю сказаць,*
*можна і маўклівасцю згадзіцца,*
*і бязволлю волю ўсю аддаць,*
*і ў сваёй нязбытнасці забыцца.*
*Аб сваім не ў клопаце даўно, —*
*я жыву — нібы сябе чакаю...*
*Ды крычыць зноў певень у акно,*
*ісціну мне тройчы пацвярджае.*

***

*Не перашкода зорка зорцы звеку,*
*сваё ў іх і агульнае святло.*
*Што можна ўбачыць зрокам чалавека*
*цяпер, калі мільёны год прайшло?*
*Святло ўсё больш загадкава і тонка, —*
*губляю, зноў знаходжу — і кажу:*
*малюсенькае сонца — што ні зорка.*
*Яно ў мяне ці я ў яго гляджу?*
*І там, і там — паўсюль перамірганне,*
*пераснятло і пераблескі зор.*
*Вось-вось і гэта вечнае ўжо ззянне*
*не зрок — душу пакліча ў свой прастор.*
*Мой позірк зоркі не, не адпускаюць,*
*ужо ў палон зіхотлівы ўзялі, —*
*заманьваюць, чаруюць і гукаюць...*
*Па небе я іду, як па зямлі.*

***

*Выссю даль, а даллю высь жыве, —*
*крыкну — аж паветра страсянецца.*
*Замаўчу, а рэха ўсё заве...*
*Толькі рэха рэху адгукнецца.*
*Знік мой голас там, дзе варажба*
*далечы, што стала вышынёю.*
*Голас мой — прызыўная журба —*
*зноў мне адклікаецца журбою.*
*Мілая, спрабуй мяне звярацць*
*з рэхам, ад мяне, на жаль, не частым.*
*Мілая, вучуся й я казаць*
*ўсім абсягам знітавана ўласным.*
*Застанецца голас мой жывым, —*
*ён душу агучваў і ў пакуце...*
*Воблака плыве, нібыта дым.*
*Не было мяжы мне і не будзе.*

***

*Дым растае над ракою,*
*слізгае дрогка на плёс…*
*Сонца сягоння такое,*
*што немагчыма без слёз.*
*Ласкай апошняю вее,*
*жоўтым на жоўтым лягло…*
*Сонейка ўжо і не ўмее*
*ўсё, што нядаўна магло.*
*Свет не святлее нібыта,*
*цьмянасць вады і зямлі…*
*Цэлае лета пражыта*
*неспасцігальна — калі.*
*Памяць — панылая скнара —*
*грозіць мінуласцю страт.*
*Вецер шугае пажарам,*
*хоць і прыкрыеш пагляд.*
*Шэра дзесь па гарызонце,*
*шэра ў асенняй вадзе.*
*Думаеш, гэта ў прыродзе?*
*Не, гэта толькі ў табе.*

***

*Святло зноў гасне ў выстылым акне,*
*і даль сябе губляе ў аддаленні.*
*Я ведаю: пара, бадай, і мне*
*у мудрацоў вучыцца адмаўленню.*
*Пара, пара адкрытае хаваць,*
*не здраджваючы ўменню ўсім уменнем,*
*і невымоўнае — усё ж сказаць,*
*паверыць адмаўленню адмаўленнем.*
*Няўжо і Гегель быў ідэаліст*
*і толькі адмаўленнем — дыялектык?*
*Кружэлку стаўлю — музыкаю Ліст*
*мне скажа, і не мовячы аб гэтым.*
*Пра што ты, зорка вечная ў акне?*
*Гучаннем я і сам сваім нямею.*
*І «так» сказаць жадаемаму «не»*
*яшчэ не смею, ўсё яшчэ не смею.*

***

*Зноў радасныя думкі ад свабоды,*
*ад мары, што ўсё хоча стаць сабой,*
*і я павінен здолець перашкоды,*
*адолець іх, ды толькі вышынёй.*
*Так, сілай духа ўзнесціся над імі*
*і там, дзе іх уладзе век не быць,*
*радкамі непазбежнымі сваімі —*
*ні гукам, ані словам — не зманіць.*
*«Дарэмна вы!» — кажу камусь парыўна,*
*зрабіўшы крок ад будней мітусні, —*
*і вечнасцю становіцца хвіліна*
*у неймаверна блізкай вышыні.*
*Іду, плыву ці ўсё-такі лятаю?*
*Дыханнем словы зноў і зноў лаўлю*
*і перашкоды ўсе перамагаю*
*тым, што гарую, цешуся, люблю.*

***

*А святла — у рачной вадзе!*
*Зачарпну зноў яго ў далоні*
*і забуду аб той бядзе,*
*што ў бясконцай за мной пагоні.*
*Я святлом у святло збягу*
*і па промнях сплыву струменных.*
*Абтрасу іх — далей пайду,*
*зноўку радасны, летуценны.*
*Ды таму, што святла я свет,*
*і стралаць па святлу — бязмэтна,*
*бо святлом і жывы паэт,*
*калі нат і няма паэта.*
*Ах, як сонечна ад вады!*
*Як блішчыць яна зорна, зыбка!*
*Блікі тыя — мае сляды, —*
*мяне знойдзеце вы па бліках.*

**Пераклала з рускай**
**Соф'я ШАХ**



Алена СТЭЛЬМАХ



# ХАМУТ

*Апавяданне*

Валодзя Саковіч павінен хутка атрымаць атэстат сталасці. Трэба вызначацца, што рабіць далей. Тое, што яму фарціць толькі горад, дакладна ведала яго маці, пярэчыць якой ён не адважваўся. Бо і самому хацелася туды, куды пры першай магчымасці навыперадкі мчалі вясковыя хлопцы ды дзяўчаты. Калі хто затрымліваўся, ішоў працаваць у калгас. У вочы не паролі, а за спінай лічылі нядзарай.

Няпроста далося Саковічысе гэта адчайнае рашэнне: сын па яе волі стане адрэзаным кавалкам.

— От, каб застаўся, удвох запанавалі б, разжыліся б не горай за іншых вясковых багацеяў, — дакарала сябе бяссоннымі начамі маці. Бо што ні кажы, а любой бабе, калі ў хаце ёсць хоць які, няхай сабе нават нягеглы, чалавек, на сяле жывецца лягчэй. З ім дабро быццам само ў двор плыве. Куды яе форс падзеўся, як Ігната не стала? Адзінотка…

Як ні было балесна, намагалася выправіць Валодзьку ў горад. Хопіць таго, што сама настрэнчылася, нагаравалася. А толку з тых высілкаў?.. Усё багацце і ёсць ён — узмужнелы, чарнявы, такі падобны да бацькі. Як кожная матка, для дзіцяці яна марыла пра лепшую долю, магчымую толькі тады, калі абміне яе Валодзьку гняткі вясковы хамут, калі не ўпражэцца ён у цяжкі воз векавой працы, калі не стане цягнуць лямку адвечных сялянскіх клопатаў.

Неўзабаве пасля апошніх школьных урачыстасцей нядзельным надвячоркам на вачах расчуленай маці хлапец уціснуўся ў, здавалася, беспамерны аўтобус, бітма набіты гэткімі ж, як і ён, ад'язджанцамі. І старая каламажына пасунулася ў бок сталіцы.

…Стомлены дзень адыходзіў на спачын разбітым на паўнеба слоікам малінавага варэння. Суседкі паглядалі ў бок барвова-чырвонага з цьмянымі крупінкамі зарава, якое абяцала на заўтра добрае надвор'е. Ім рупіла аглядацца, і «казалаў» хапіла ўдосталь.

Ці згадвалі кабеты, як пасля выправінаў сына пакутавала матчына сэрца? Як моташна было ў таварышкі на душы? Як ногі яе не ішлі ў апусцелую хату?..

…Горад стрэў запозненага пасажыра раскладушкай у цесным калідоры цётчынай аднапакаёўкі. Але цётчына ласка давала пляменніку шанц быць не горшым з вясковых — гарадскім. А гэта значыць штодня смакаваць салодкую газіроўку са свежым батонам, шпацыраваць у туфліках па чыстым асфальце, не пэцкаць працай рукі.

Здатны да навукі хлопец паступіў без праблем. Пасля першага курса перабраўся ў студэнцкі інтэрнат. Вывучыўся на інжынера і да вялікай матчынай радасці аказаўся размеркаваным на прэстыжны ў той час завод «Інтэграл».

У гарачую пару інтэгралаўцы, як было прынята называць іх — шэфы, рэзка павялічвалі ў калгасе колькасць такіх неабходных рабочых рук. Памагатымі былі тыя ж самыя хлопцы і дзяўчаты, з маленства прыраслыя да матухны-зямлі. Васілі ды Ганны ўвішна рыхтавалі сена, капалі бульбу, церабілі буракі. Каторай адзінокай жанчыне і дровы калолі, і ваду насілі. Таму і вёска да іх ставілася як да родных — цёпла, душэўна.

Летам месяцы са два вышчыроўваў у шэфах і Валодзька, праўда, у іншым калгасе. У горадзе хлопец не разбэсціўся. З Ірынкай пазнаёміўся ў той самай вёсцы, куды выпраўлялі ў памагатыя ад «Інтэграла». Тая пасля будатрада на тыдзень прыехала да бацькоў, у іх хаце якраз кватараваў заводавец. А праз час ён вярнуўся па таго ж самага парога… зяцем.

Маладыя па інтэрнатах доўга не туляліся: перспектыўнаму спецыялісту хутка далі двухпакаёўку, улічваючы вельмі важную па тым часе акалічнасць — разнаполых дзяцей (у сям'і нарадзіліся Мікітка з Марынкай). Жончыны бацькі дапамаглі абсталявацца. Зарплата інжынера не вельмі дазваляла раскашэльвацца, а ўсё ж дзякуючы Ірынчынай эканомнасці ўмудраліся летам звазіць дзяцей адпачыць.

Можна толькі здагадвацца, як бы цяпер жылося, каб не перабудова. Перабыталіся былыя інтэгральныя схемы. Некаторыя, у тым ліку і інтэгралаўцы, шукаючы выйсце, кінуліся ў надзвычай спакуслівы на той час гандаль. Адна справа — стаяць у даўжэзнай чарзе, маючы туманную перспектыву набыць хоць які-небудзь тавар, іншая — самому раскладаць перад збянтэжаным ад нечаканай удачы пакупніком невядома адкуль узятыя заморскія штуковіны. Валодзя з Ірынай адразу для сябе вызначылі: гэта не па іх. Няма ў іх той жылкі, без якой не трэба і лезці ў лік базарных зазывалаў, — купі-прадам. А чаго ж тады яны вартыя ў выпрабавальны час перамен?

Грашовыя запасы раставалі. Разлічваць на матчыну пенсію, хоць старая ішла на розныя хітрыкі, браў сорам. Выкарасквацца трэба было самім.

Валодзя ніяк не адважваўся прызнацца жонцы ў патаемным. А яно ўсё больш прасілася вонкі.

Ці магла маці здагадвацца пра яго нечаканыя думкі-спадарожніцы, калі калыхаўся ў аўтобусе, развітваючыся з домам? Пачуцці пластаваліся, бы клаў у капу сена. Адзін бярэмак узяў — горад мроіцца, другі — вёска не адпускае, бацькаў сад ходу не дае. І ў час студэнцтва пахла яму Радзіма антонаўкамі. А там, на Чарнаморскім узбярэжжы, наогул дасягалі дзявятага валу прыцягальныя хвалі яго Бацькаўшчыны.

…Добразычлівага паўднёвага сонца ўдосталь хапала на ўсіх. Яно тут жа распранала і шчодра песціла (толькі б не спячы!) прагных да залаціста-карычневага колеру новых адпачыннікаў. І яны, разамлелыя, разняволеныя, зліваліся з распаленым пяском на даўжэзным узбярэжжы.

Побач дыхала Чорнае мора. Валодзя не мог адвесці вачэй, зміраў, назіраючы, як здалёк бягуць беласнежныя хвалі. Здавалася, гулялі ў даганялкі, наскоквалі адна на адну. А калі дабягалі да берага, мора шумела, бы ўшчувала сваволнікаў, настойліва заклікала быць асцярожнымі. Адпачыннікаў як магнітам цягнула пад фантаны вады.

Валодзю здавалася, што гэта правіць баль яго расвяснелы квітучы сад. Ён падхопліваўся ды ішоў, каб быць там, сярод бела-ружовай квецені, расплясканай срэбнымі кроплямі салёнай чарнаморскай вады.

Неабыякавасць да саду яму прывіў бацька. Мо ведаў, што век самога будзе карацейшым, чымва ўпадабанага ім дрэва — доўгажыхаркі антонаўкі. Пасля вайны Ігнат разам з хлопцамі-аднагодкамі абачліва збіраў не столькі грыбы, колькі раскіданае вайной па лесе жалеззе. На Бяляўшчыне, былым хутары, дзе ў час партызанскай блакады ішоў крывавы бой, знайшлі снарад… Хлопцы цудам засталіся ў жывых. Апаліла ўсіх. Без броваў, павеек, з высмаленымі чубамі хадзілі доўга, пакуль адраслі новыя. А ў Ігната яшчэ і да калена расшчапіла нагу. Больш як год зажывала. Але і пасля кульгаў, ды ўголас не скардзіўся. У полі ці на лузе работнік з яго быў слабы, таму і прыкіпеў Ігнат да саду ўсёй душой.

Няма на вёсцы той сядзібы, дзе б не расло пладовае дрэва. Вунь вішні чырванеюць — дзецям і вераб'ям на забаву. І слівa сокам наліваецца — першачок з яе добра голаў кружыць. Але сад Крыловічаў — на ўсё наваколле сад. Мясцовыя падшыванцы спрабавалі рабіць туды набегі, ды хутка страцілі імпэт. Дзядзька Ігнат набраў з каптуром кашолку адборнага белага наліву — і на вуліцу. "Частуйцеся!" — міласціва запрасіў. А як грушы бы мёдам набрынялі, ён зноўку выставіў пачастунак за брамку.

Маці спярша бурчэла. Не яблыкаў шкадавала. Ніколі жміндай не была. Торбу ўсялякай садавіны, ці не большую за свой не такі і малы рост, насушыла. Яе цешыла тое, што гатункаў такіх, як у іх, — ранетаў, штрыфеляў, цітавак, бэраў — ні ў кога няма. Але, як суседкі сталі дзякаваць і хваліць Ігната, памякчэла. Бывала, сама, калі кабеты бавілі на лаве час у чаканні з поля кароў, несла ім у фартуху розную смакату.

Ігнат, як чмель, кружыў і кружыў ля дрэў. Стрэнчыў саду болей, чым жонцы. Гаварыў з дрэўцамі, усё нешта прыдумляў, праводзіў вопыты. Глыбей спазнаць таямніцы прыроды яму дапамагалі спецыяльныя кнігі, дасланыя з няблізкага свету гэткімі ж апантанымі садаводамі-аматарамі. Час ад часу сам браўся за лісты. А расказаць было пра што. Хіба не дзіваванне, каб на адным дрэве расло некалькі розных гатункаў яблыкаў або груш?

Валодзя заканчваў пяты клас, калі бацькі не стала. Ён пайшоў з жыцця якраз у тую пару, калі сад, абудзіўшыся ад зімовага сну, наважыўся салютаваць святлу і адроджанай вясне мільёнамі набрынялых пупышак. Сад квітнеў густа і ў той год, але не было ў ім пявучай радасці, якая акрыляе яго нязменных сябровак — меданосных пчол-працаўніц. Мароз, няпрошаны госць падчас квітнення садоў, не стаў на той раз пракудзіць, а завязь узялася ўсяго дзенідзе. Людзі казалі: «Закволіўся ў жалобе Ігнатаў сад. Смуткуе…»

На наступны год у садзе ўсяго хапала, але ён, адчувалася, запуставаў, занядужыў. Валодзька спрабаваў чытаць бацькавы кнігі, але палічыў іх занадта мудрагелістымі. А паштарка яшчэ доўга апускала ў скрынку лісты ад бацькавых паплечнікаў-садаводаў. На іх ніхто не адказваў. І змоўкла пошта.

Думаў Валодзя, што насланнё яму з садам так сабе, мімалётнае, пройдзе. Ці мала чаго выштукоўваецца ў малалецтве… А пасля душу грэюць юнацкія ўспаміны.

…Валодзя схамянуўся ад нечаканых думак: можа, зусім не выпадкова галіны старых дрэў зачапіліся за самыя чуллівыя струны яго душы? Можа, адтуль, з нябёсаў, спасылае яму бацька адзіна правільнае рашэнне? Магчыма, сад і ёсць тое выратавальнае кола, менавіта за яго варта ўхапіцца?

Але як адважыцца сказаць пра гэта жонцы, звыклай да спакуслівых выгод сучаснага мегаполіса?

Валодзя вырашыў сярод тыдня цішком падскочыць у вёску, чым вельмі здзівіў маці. Тая секла ў катушку звараную для свінні бульбу. Ад неспадзяванкі схамянулася, насцярожылася:

— Мо здарылася што? Як ёсць кажы!

Супакоіўшы старую, Валодзя шмыгануў у хату. У разной дубовай шафе са шклянымі дзверкамі (бацькоўскі скарб!), на самай верхняй паліцы, знайшоў тыя самыя бацькавы кнігі. Акуратненька паклаў іх у пакет. Маці напакавала сыну торбу ў дарогу.

Валодзя знаёмай сцяжынкай мінуў хлеў, за ім — сад. Той, падалося, стрэў яго не вельмі ветліва, старэчымі вачыма аглядаў адпрасаваны касцюм завітанца, падабраны жонкай у тон кашулі гальштук, начышчаныя да бляску туфлікі.

Валодзя спыніўся ля разгалістай каштэлі. Успомніў, як бацька прышчэпліваў да яблыневай галінкі новы парастак. Хацелася Ігнату перадаць хлопцу занадта тонкае ўменне: злучыць адно дрэва з другім, каб ім, зусім розным, жыць да веку ў пары, каб дзівілі яны свет сваімі пладамі. Валодзька зыркаў па баках, мецій хутчэй гайсануць ад бацькі: яму карцела паганяць з хлопцамі ў футбол.

Цяпер тая самая каштэля ўсыпана яблыкамі-зелянцамі. Месца прышчэпкі аніяк не пазнаеш. Так дрэва прыняло да сябе колішні чаранок-чужынец. Выдаюць сваё паходжанне яблыкі — з чырвонымі бакавінкамі. Валодзя сарваў адно. Куснуў. Цвёрдае. Такое да мая ўляжыць.

Вечарам Валодзя запозніўся на кухні. Ірына некалькі разоў адчыняла дзверы, бачыла: увесь час муж нешта піша, крэсліць, чэрціць — быццам бы звыклая для інжынера справа.

— Што ты там штукуеш? — не сцярпела, запыталася. Выслухала доўгі расповед мужа.

…Бацькаў сад, састарэлы, асмуглы, працягваў радаваць сям'ю сакавітымі пладамі. Пабіты маразамі, пасечаны хлёсткімі вятрамі, з парэпанай карой, ён не мог здрадзіць памяці свайго гаспадара. Валодзя, як мог, падтрымліваў. Вясной абразаў яго. Ірына пагаджалася з тым, што пасля паездкі на мора астатнюю частку адпачынку муж правядзе ў вёсцы. Але вяртацца туды зноў, як надумаў Валодзя, на яе думку было поўнай безразважнасцю.

Доўга ўначы ў акенцы на пятым паверсе шматпавярхоўкі гарэла святло. Галасы мужа і жонкі то павышаліся, то сцішваліся. Ірына некалькі разоў выбягала астуджваць чырвоны ад слёз твар. Ці спалі яны наогул у тую трывожную ноч?

Валодзя зранння распачаў збірацца. Ірынка дачакалася: нарэшце ачысціў завалены, як яна казала, непатрэбіцай балкон. Багажнік машыны зачыніўся не адразу. На ўскраіне горада прыпыніўся ля садовага цэнтра, набыў яшчэ тое-сёе.

Калі «жыгулі» набралі хуткасць, уздоўж дарогі замільгалі дрэвы. Здавалася, яны давалі марам зялёнае святло. Валодзя вяртаўся на бацькоўскія натопіны шукаць далёка схаваны «хамут».

# Чытаем Багдановіча. Разам!

**У кожнай літаратуры ёсць вершы, якія можна назваць візіткамі нацыі. Нагода — мастацкая дасканаласць, а таксама шырокі грамадскі розгалас і ў нацыянальнай культуры, і за мяжой.**

Гісторыя беларускай выдавецкай практыкі мае прыклады кніг, дзе сабраныя пераклады асобных хрэстаматыйных, шэдэўральных вершаў на мовы народаў свету. Так, у 1983 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ўбачыла свет кніга «А хто там ідзе?», укладзеная В. Рагойшам і Я. Раманоўскай, у якой верш Я. Купалы, па сутнасці гімн беларускага народа пачатку XX стагоддзя, быў прадстаўлены ў перакладах на 82 мовы свету. Летась у Выдавецкім доме «Звязда» выйшла кніга «Францыск Скарына на мовах народаў свету» (2015), укладзеная А. Карлюкевічам, дзе вядомы скарынаўскі верш з прадмовы да кнігі «Юдзіф» загучаў на 64 мовах свету.

У творчай спадчыне Максіма Багдановіча, сёлетняга юбіляра, сярод шэрагу запамінальных твораў вылучаецца верш «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…», адметны філасофскім гучаннем, надчасавым і наднацыянальным клопатам аўтара пра лёс чалавецтва. Упершыню твор быў апублікаваны ў газеце «Наша ніва» 21 лютага 1915 г. і замацаваў за М. Багдановічам статус пачынальніка верлібра ў беларускай паэзіі:

*Я хацеў бы спаткацца*
*з Вамі на вуліцы*
*У ціхую сінюю ноч*
*I сказаць:*
*«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,*
*Ясныя зоркі Геркулеса?*
*Да іх ляціць нашае сонца,*
*I нясецца за сонцам зямля.*
*Хто мы такія?*
*Толькі падарожныя — папутнікі*
*сярод нябёс.*
*Нашто ж на зямлі*
*Сваркі і зваркі, боль і горыч,*
*Калі ўсе мы разам ляцім*
*Да зор?»*

Верш, напісаны ў час Першай сусветнай вайны, не страціў актуальнасці і сёння. 125-годдзе з дня нараджэння класіка літаратуры падштурхнула да ідэі правесці беспрэцэдэнтную міжнародную культурную акцыю — прэзентаваць выбітны чалавекалюбны твор М. Багдановіча на мовах народаў свету. Ініцыятыву гатовы падтрымаць Выдавецкі дом «Звязда» на старонках інтэрнэт-партала «Сугучча. Літаратура і публіцыстыка краін Садружнасці», што забяспечыць шырокую аўдыторыю, паспрыяе папулярызацыі нацыянальнай класікі.

Верш здаўна прыцягвае ўвагу перакладчыкаў. Да перастварэння твора М. Багдановіча на мовы іншых народаў, магчыма, прыахвоцяцца і сённяшнія дойліды мастоў дружбы. Запрашаем да супрацоўніцтва асобных аўтараў, творчыя згуртаванні, адукацыйныя і культурна-асветніцкія ўстановы.

**Мікола ТРУС**

# Гарызонты Паўднёвай Азіі

## Беларускае слова ў далёкім замежжы

Своеасаблівым падвядзеннем вынікаў плённага супрацоўніцтва стаўся сумесны круглы стол у Выдавецкім доме «Звязда» «Беларуская літаратура ў краінах Паўднёвай Азіі», дзе абмяркоўваліся культурна-гістарычныя і літаратурныя адметнасці рэгіёна, практыка мастацкага перакладу яго нацыянальных літаратур, літаратурная спадчына Індыі, Пакістана, Непала, Афганістана на старонках беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыкі. Далейшае плённае супрацоўніцтва патрабуе канкрэтных стратэгічных крокаў, і ад вызначэння культурнага вектара ўзаемадзеяння залежыць многае.

Пэўна, некага здзівіць актыўная перакладчыцкая цікавасць беларускіх пісьменнікаў да літаратур краін Паўднёвай Азіі. Колькі адрозненняў у шляхах гістарычнага развіцця, менталітэце… Аднак, вывучаючы культуру далёкіх экзатычных краін глыбей, можна знайсці шмат агульнага: веру ў нязломнасць духу, імкненне да незалежнасці, выключную працавітасць, прыродную кемлівасць і пачуццё гумару.




Фота Ільі Кацусава.

Падчас круглага стала.

У нечым мы паядналыя і трагічнымі старонкамі лёсу. Узгадаем, колькі беларусаў, прыкладам, праходзілі ваенную службу ў Афганістане, у тым ліку — прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Адсюль і актуальнасць «афганскай» тэмы ў беларускай літаратуры. Алесь Крыванос, Сяргей Дубовік, Алесь Дзмітрыеў, Іван Сяргейчык — вось далёка не поўны спіс тых, хто вярнуўся з Афганістана, каб расказаць нам праўду…

А вось і прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі ў Паўднёвай Азіі і з мірнымі гуманістычнымі памкненнямі. Напрыклад, Уладзімір Счасны знаходзіўся з дыпламатычнай місіяй у Пакістане, актыўна перакладаў з англійскай мовы і ўрду. Не спадае цікавасць да багатай культуры, мовы ўсходніх краін і сёння. Яркі прыклад таму — здзейснены Ігарам Кулікоўым пераклад «Рыгведы» на беларускую мову. А на старонках «ЛіМа» пабачыла свет грунтоўная падборка перакладаў непальскіх паэтаў, удзельнікаў літаратурнага аб'яднання «Вясёлка»: Мадхафа Прасада Гхімірэ, Балкрышана Сама, Бхімадршана Рока, Сідхічарана Шрэштха ды інш. Цёплыя стасункі звязваюць літаратараў Беларусі і Пакістана. Перастварыліся па-беларуску творы шматлікіх сучасных пакістанскіх паэтаў («Полымя» № 6 за гэты год, перакладчыкі — Адам Шостак і Алесь Бразгуноў). У лютым у Выдавецкім доме «Звязда» прайшла сустрэча з прадстаўнікамі пакістанскіх масмедыя і навукоўцамі, завязалася супрацоўніцтва з Акадэміяй літаратуры Пакістана. У 107-м нумары часопіса «*Adbiyaat*» (май 2016) былі апублікаваны ўрыўкі з твораў Святланы Алексіевіч у перакладзе на мову ўрду…

Уражаннямі ад судакранання з усходняй літаратурай, ідэямі супрацоўніцтва падзяліліся ўдзельнікі круглага стала.

Намеснік дырэктара — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота адзначыў важнасць пераемнасці беларускіх перакладчыцкіх традыцый і перакладу з мовы арыгінала:

— Гэтая сустрэча абсалютна невыпадковая. Гэта адзін з крокаў для пашырэння нашай літаратурнай прасторы і ўяўлення пра літаратуры свету ў цэлым і літаратуры ўсходнія ў прыватнасці. Безумоўна, хацелася б, каб мерапрыемства мела практычныя вынікі, каб з'яўляліся новыя пераклады. У нас ужо ёсць немалы досвед па перастварэнні літаратурных твораў Усходу на рускую і беларускую мовы. Напрыклад, зараз рыхтуецца тэматычны «кітайскі» нумар часопіса «Маладосць». Наладжаны і трывалыя творчыя стасункі з Казахстанам.

Індыйская літаратура таксама даўно ў полі зроку беларускіх літаратараў. У часопісе «Всемирная литература» дзякуючы намаганням тагачаснага галоўнага рэдактара Таісы Бондар даволі часта з'яўляліся як асобныя індыйскія пераклады, так і нумары, прысвечаныя індыйскай літаратуры, альманахі. Трывалае супрацоўніцтва з Пасольствам Індыі ў Рэспубліцы Беларусь давала добрыя вынікі. З'яўляліся час ад часу пераклады і ў беларускамоўнай перыёдыцы. Былі перастварэнні непальскіх ды афганскіх твораў. Часопіс «Нёман» працягвае гэтыя традыцыі. У рубрыцы «Всемирная литература в "Нёмане"» з'яўляюцца пераклады як класічных, так і сучасных аўтараў замежжа. Колішні рэдактар гэтага аддзела Юрый Сапажкоў які, на жаль, пайшоў з жыцця, пяць гадоў прысвяціў дыпламатычнай працы ў Індыі, актыўна займаўся вывучэннем і перастварэннем індыйскай літаратуры. Сапраўдным адкрыццём для нас у апошнія гады стала супрацоўніцтва з кіраўніком уласнай студыі перакладу «Аланкар» Алесяй Макоўскай. Калі да гэтага з'яўляліся пераклады індыйскіх твораў з англійскай мовы, то цяпер мы маем пераклады з хіндзі! Спадзяюся, што з дапамогай як адукацыйных і навуковых устаноў, так і захопленых энтузіястаў мы зможам зрабіць яшчэ больш для пашырэння нашых літаратурных далягляды.

Пра асаблівасці вывучэння старажытнай мовы санскрыт у Беларусі, а таксама ўласныя перакладчыцкія ініцыятывы распавёў паэт, перакладчык Ігар Кулікоў:

— Вывучэнне санскрыту немагчымае без знаёмства з культурай, міфалогіяй, рэлігіяй старажытнай Індыі. Дзякуючы свайму настаўніку Міхаілу Баярыну я спасцігаў усё гэта ў комплексе. Прычым М. Баярын арганізоўваў вывучэнне, карыстаючыся традыцыйнымі індыйскімі граматыкамі. Цяпер я таксама выкладаю, спрычыніўся да выдання падручніка «Уводзіны ў традыцыйны санскрыт». Паступова прыйшло жаданне перакладаць буйныя творы. Першае, за што ўзяўся, быў твор не літаратурны, а зноў-такі санскрыцкая граматыка. Гэта даволі маштабны праект. Перакладаем на некалькі моў свету, плануецца восем кніг. Потым зацікавіліся і перакладамі мастацкай літаратуры. Міхаіл Баярын стварыў каштоўны помнік старажытнаіндыйскай рэлігійна-філасофскай думкі — «Бхагават-гіту» («Богаву песню»). Пакуль пераклад яшчэ не існуе на паперы, але ўжо даступны ў інтэрнэце. У маім перакладзе выйшла першая частка «Рыгведы», у далейшым планую перастварыць усе дзесяць частак. «Рыгведа» — адзін з найстаражытнейшых твораў не толькі Індыі, але і ўсяго чалавецтва, якія дайшлі да нашага часу. Таму падчас працы над перакладам я адчуваў вялікую адказнасць і разам з тым вялікую цікавасць. Гэта ж магчымасць дакрануцца наўпрост да вытокаў індыйскіх нацыянальных ідэй, вобразнасці ў літаратуры і мастацтве!

А ў сваёй новай кнізе вершаў я змясціў урывак з «Магабхараты». Пры падтрымцы Пасольства Індыі ў Рэспубліцы Беларусь у хуткім часе павінен выйсці пераклад прыгожай лірычнай паэмы «Пасланнік воблака». Маю мару таксама перастварыць на беларускую мову «Рамаяну».

Увогуле, літаратура на санскрыце — невычарпальная крыніца для сучаснай вобразнай і ментальнай карціны свету. Не трэба думаць, што гэта толькі літаратура рэлігійнага зместу. Ёсць шмат цікавых, абсалютна свецкіх твораў: навуковыя трактаты, эратычныя паэмы і шмат чаго іншага. Гэты неабсяжны літаратурны «кантынент» яшчэ чакае свайго беларускага чытача.

Досведам асабістых кантактаў з замежнымі літаратурнымі аб'яднаннямі, а таксама ідэямі прэзентацыі беларускай літаратуры ў свеце падзяліўся намеснік дырэктара Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Яўген Гарадніцкі:

— Трэба адзначыць, што нядаўняя публікацыя ў «Полымі» перакладаў сучаснай пакістанскай паэзіі адбылася дзякуючы кантактам Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і Выдавецкага дома «Звязда» з Акадэміяй літаратуры Пакістана. Што важна, была заключана дамова аб супрацоўніцтве. Гэта яшчэ адзін пераканаўчы факт важнасці непасрэдных асабістых кантактаў з прадстаўнікамі замежных літаратур. Дарэчы, Акадэмія літаратуры Пакістана — дзяржаўная ўстанова з пастаянным фінансаваннем, што вельмі добра адбіваецца на развіцці іх нацыянальнага кнігавыдання, падтрымцы аўтараў і г. д. Безумоўна, і нам варта было б пераняць такі пазітыўны досвед усходніх калег.

Беларускія літаратары апошнім часам усё больш актыўна адкрываюць літаратуры розных народаў свету, перакладаюць непасрэдна з моў арыгінала. Але трэба больш увагі надаваць пытанню, як беларуская літаратура прэзентуецца ў свеце. Зразумела, што на абшарах СНД моваў-пасрэдніцай часцей за ўсё з'яўляецца руская. Але для краін далёкага замежжа неабходны якасныя пераклады твораў беларускай літаратуры на англійскую. Калі падыходзіць да пытання практычна, то варта было б і нам стварыць дзяржаўную арганізацыю, якая б непасрэдна займалася прасоўваннем беларускай літаратуры ў свеце са штатнымі кваліфікаванымі перакладчыкамі.

Прагучалі падчас сустрэчы і выступлені перакладчыкаў Алесі Макоўскай, Яны Явіч, Ірыны Качатковай, Валерыі Саротнік, якія дзяліліся ўражаннямі ад працы над перакладамі літаратур Усходу, чыталі перакладныя творы.

Хочацца верыць, што дзякуючы сумесным намаганням стане рэальнасцю мара пра выданне анталогій беларускай літаратуры ў Пакістане і Непале!

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# Свята «храма кнігі»

**Вабны свет, дзе знаходзіць задавальненне дапытлівы розум; культурны асяродак, дзе пануе асвета. Стыхія спасцігаць навукі, узбагачаць адкрыццямі. Прыстанак прыхільнікаў мудрасці. Тут не спыняецца духоўнае выспяванне, пошук новага… Кніга заўсёды была рухавіком прагрэсу, бібліятэка спрыяла творчай і інтэлектуальнай актыўнасці.**

**У сучасных умовах бібліятэка, па-ранейшаму з'яўляючыся найбуйнейшым інфармацыйным, адукацыйным, культурна-асветніцкім цэнтрам, выбірае напрамкі дзейнасці і функцыі, якія неабходны грамадству, улічваючы культурныя, сацыяльныя і эканамічныя ўмовы.**

**Па дадзеных Міністэрства культуры, агульная колькасць бібліятэк па рэспубліцы сёння складае каля 7,7 тыс. У сістэме Міністэрства культуры функцыянуе 2837 публічных бібліятэк. З іх 2204 бібліятэкі ў сельскай мясцовасці. У публічных бібліятэках сістэмы Міністэрства культуры занята каля 10,4 тыс. чалавек. Сярод бібліятэчных работнікаў больш за 95 працэнтаў жанчыны. Нестацыянарнае бібліятэчна-інфармацыйнае абслугоўванне ў рэгіёнах ажыццяўляецца 104 бібліёбусамі. Колькасць карыстальнікаў складае больш як 3,2 млн чалавек, у тым ліку 2,7 працэнта карыстаюцца паслугамі ў аддаленым рэжыме. Колькасць карыстальнікаў сельскіх бібліятэк — каля 0,9 млн чалавек (28,1 працэнта ад агульнай колькасці карыстальнікаў). Сумарны бібліятэчны фонд рэспублікі складае больш за 180 млн адзінак захоўвання. Сумарны аб'ём фонду публічных бібліятэк Міністэрства культуры — 57,9 млн адзінак захоўвання.**

*Наталля СВЯТЛОВА*

# АД ЗБОРУ ЕЗУІТАЎ ДА ЭЛЕКТРОННЫХ КАТАЛОГАЎ

Першыя бібліятэкі ў Віцебску былі створаны яшчэ ў XVII стагоддзі. Яны былі кніжнымі зборамі пры манастырах і касцёлах: езуітаў, піяраў, базыльян і гэтак далей. А з канца XVIII стагоддзя ўзніклі першыя свецкія бібліятэкі — пры ўстановах адукацыі. У 1840 — 1850 гадах адчыніліся першыя прыватныя бібліятэкі. Адна з іх належала брату вядомага пісьменніка А. Вярыгі-Дарэўскага. Потым літаратар напісаў, што яго брат Сямён, нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, 6 гадоў утрымліваў публічную бібліятэку... У савецкі час цяперашняя абласная бібліятэка адчынілася ў першы дзень 1929 года.

Раней лічылася, што бібліятэка заснавана 14 кастрычніка 1925 года.

— У гэты дзень на пасяджэнні Прэзідыума Віцебскага акружнога выканкама прынялі рашэнне аб адкрыцці ў Віцебску аддзялення Дзяржаўнай бібліятэкі. А потым былі выяўлены архіўныя дакументы, якія сведчаць пра тое, што яго адкрыццё — у прыбудове да ратушы — адбылося 1 студзеня 1929-га года і было прымеркавана да 10-гадовага юбілею ўтварэння Беларусі.

Асновай фарміравання бібліятэчнага фонду з'явіліся кніжныя зборы бібліятэк аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута, Інстытута народнай адукацыі, кнігі, якія былі сабраны пры Віцебскім аддзяленні Дзяржаўнага музея. Да моманту адкрыцця аддзялення бібліятэкі яе фонд налічваў 35 тысяч экзэмпляраў, — распавядае дырэктар Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна **Таццяна Адамян.** На гэтай пасадзе яна каля двух гадоў. Раней доўгі час працавала намеснікам кіраўніка.

Для чытачоў былі арганізаваны аддзелы: агульны, беларусазнаўчы, яўрэйскі, замежных і старадрукаваных кніг, перыядычнай літаратуры. Створаны чытальная зала і пакоі для навуковай работы. Пры гэтым у штаце працавалі ўсяго трое. Бібліятэка мела статус навуковай. І фонд папаўняўся паступленнямі з мінскай Кніжнай палаты. Бібліятэцы вылучаліся бюджэтныя сродкі на набыццё кніг і часопісаў на бягучы год. Цікава, што толькі з 1934 года там пачалі атрымліваць дзве адзінкі абавязковага платнага экзэмпляра беларускіх выданняў…

Думаецца, у першыя дні пасля вызвалення горада ад акупантаў не да аднаўлення працы бібліятэкі? У Віцебску, дзе 26 чэрвеня 1944 года вызваліцеляў сустрэлі менш як 200 чалавек, бібліятэка запрацавала 1 жніўня!

— Калектыву з трох чалавек — дырэктару, бібліятэкару, тэхнічцы — вылучылі два невялікія пакоі ў даваенным памяшканні ўстановы. Жыхары Віцебска пачалі прыносіць туды свае кнігі, якія ўцалелі цудам. І пры іх самай актыўнай дапамозе ўстанова культуры атрымала другое жыццё, — працягвае дырэктар.

У першыя месяцы працы ў бібліятэцы нават сталоў не было. А замест крэслаў работнікі выкарыстоўвалі скрыні ад патронаў! У канцы 1944 года бібліятэку наведвалі каля 250 чытачоў. У кніжным фондзе тады было больш за 8,8 тысячы экзэмпляраў. У тым ліку 50 — па мовазнаўстве.

У 1967-м «храм кніг» пераехаў у новы будынак, у якім знаходзіцца і цяпер. А ў наступным годзе ў бібліятэцы пачаў працаваць кансультацыйны пункт абласнога савета Усесаюзнага таварыства вынаходнікаў і рацыяналізатараў. Сталі праводзіць дні інфармацыі і дні спецыяліста. Калі купілі кінаўстаноўку, арганізавалі кіналекторый. І шмат чытачоў з задавальненнем глядзелі мастацкія і дакументальныя фільмы. Абмяркоўвалі ўбачанае. Стварылі і, не паверыце, універсітэт… аматараў кнігі! І на працягу трох гадоў (!) чытачы знаёміліся з класікай і навінкамі літаратуры. Яны ж слухалі лекцыі: па мастацтве і нават эстэтыцы! І бралі ўдзел у музычна-літаратурных вечарынах.

Сёння структура бібліятэкі складаецца з 14 аддзелаў абслугоўвання і 5 функцыянальных аддзелаў. З 1 лютага 2012 года пачала працаваць як самастойнае структурнае падраздзяленне бібліятэкі электронная чытальная зала, дзейнасць якой з'яўляецца забеспячэнне інфармацыйных патрэб карыстальнікаў на аснове сучасных камп'ютарных тэхналогій. Усім карыстальнікам прадастаўляецца бясплатны доступ да баз даных уласнай генерацыі і аддаленага доступу, у тым ліку да інфармацыйных рэсурсаў віртуальнай чытальнай залы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, а таксама да рэсурсаў адкрытага доступу ў інтэрнэце.

Фонд залы змяшчае электронныя дакументы ўніверсальнай тэматыкі на дысках. Да паслуг карыстальнікаў прапанавана калекцыя агучанай літаратуры, аўдыяспектаклі, аўдыяэкскурсіі, навучальныя і даведачныя выданні, энцыклапедыі, дакументальныя навукова-папулярныя фільмы канала *«Discovery»* і многае іншае. У рамках сацыяльнага праекта «Школа камп'ютарнай граматнасці» супрацоўнікі праводзяць бясплатныя заняткі па асновах камп'ютарнай граматнасці для карыстальнікаў бібліятэкі пенсійнага ўзросту.

Фонд абласной бібліятэкі налічвае звыш 705 тысяч экзэмпляраў дакументаў: кнігі, брашуры, перыёдыка, электронныя дакументы. У фондзе больш за 7 тысяч пласцінак, кампакт-дыскаў — лепшая на Віцебшчыне



*Таццяна Адамян, дырэктар Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна.*

фанатэка. За першае паўгоддзе ў бібліятэцы абслужылі больш за 33 тысячы чытачоў, якім выдадзена звыш 520 тысяч дакументаў.

— Адзін з самых эфектыўных метадаў піяру бібліятэк — іх афіцыйныя сайты. На сайце абласной бібліятэкі размешчаны электронны каталог, анонсы і інфармацыя пра мерапрыемствы, электронныя версіі бібліятэчных выданняў, базы даных уласнай генерацыі, бюлетэнь новых паступленняў і шмат іншай карыснай інфармацыі. За мінулы год наведванні сайта склалі звыш 466 тысяч. Інфармацыя на сайце пастаянна абнаўляецца, дапаўняецца, — дадае дырэктар.

Дырэктар канстатуе, што аб'яўлены ў Беларусі Год культуры патрабуе ад бібліятэкараў асаблівай актыўнасці і творчасці. На бібліятэчным сайце прадстаўлена вялікая праграма бібліятэчных сацыякультурных мерапрыемстваў гэтага года. Сярод іх: мерапрыемствы да юбілеяў дзеячаў культуры, літаратуры, мастацтва Беларусі, мастацкія выставы, творчыя сустрэчы, майстар-класы і прэзентацыі.

— На сёння ў бібліятэцы вядзецца актыўная падрыхтоўка навукова-практычнай канферэнцыі, прымеркаванай да 385-годдзя выхаду ў свет «Буквара» Спірыдона Собаля, якая пройдзе 24 лістапада. А 15 верасня мы адзначылі Дзень бібліятэк. Ужо традыцыйна ў гэты дзень у бібліятэцы праводзіцца комплекс мерапрыемстваў для чытачоў розных узростаў. Сёлета тэма нашых асноўных мерапрыемстваў — бібліятэка і беларускі кінематограф, — адзначыла Таццяна Адамян напрыканцы размовы.

**Аляксандр ПУКШАНСКІ**

# На варце вечнасці

Амаль дзесяць стагоддзяў… Для вечнасці — пясчынка, для жыцця — набыццё.

Першая беларуская бібліятэка — Бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора — адзначае 950-годдзе. Задаючы тэмп развіццю, асвеце, разліла святло кніжнай мудрасці на многія пакаленні. Сёння, у Дзень бібліятэк, перагортваем старонкі векавой спадчыны. Адсвяткаваць 950-годдзе першай у Беларусі бібліятэкі, абмеркаваць навуковыя і культурныя здабыткі на круглым стале ў Нацыянальнай бібліятэцы сабраліся кіраўнікі і прадстаўнікі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускай праваслаўнай царквы, работнікі бібліятэк і музеяў, кіраўніцтва і вядучыя спецыялісты ўстаноў навукі і адукацыі.

Бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора была створана ў час яго заснавання — 1066 г. Як цэнтр праваслаўя на беларускіх землях, лічылася ўнікальнай: славілася выключна багатым зборам кніг. У XII стагоддзі памнажэнню збораў садзейнічала Еўфрасіння Полацкая, перапісваючы кнігі ў скрыпторыі сабора. Згодна з даследаваннямі, у бібліятэцы знаходзіліся як літургічныя, так і філасофскія творы, біблейскія і новазапаветныя тэксты і кампіляцыі, у тым ліку апакрыфічныя, гістарычныя працы, летапісы і іншыя літаратурныя помнікі. Але многае страчана падчас Лівонскай вайны.

Як адзначыў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша, лёс Бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора незайздросны: вельмі пацярпела пасля ўзяцця Полацка спачатку рускімі войскамі, потым, у 1579 г., — войскамі Стэфана Баторыя. Культурныя каштоўнасці разрабаваны. Полацк лічыўся найбуйнейшым горадам Беларусі, ці не мацнейшым у параўнанні з Вільняй. На жаль, у колішнім маштабе так і не аднавіўся. Прыкметная асоба ў лёсе кнігазбору Полацкага Сафійскага сабора — Ян Замойскі. Ён быў актыўным удзельнікам адваявання горада, сабраў рэшткі полацкіх кніг і захоўваў у сваёй бібліятэцы як культурную каштоўнасць.

У пач. XVII ст. стварающа навучальныя ўстановы (добра вядомая Полацкая духоўная семінарыя), што робіць Полацк асветніцкім цэнтрам. Захавалася нямала каштоўных кніжных асобнікаў, але яны за межамі нашай краіны.

Нягледзячы на вайсковыя падзеі, некаторыя кнігі з бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора зберагліся. Рукапісы XV — пач. XVI ст. сёння знаходзяцца ў Варшаве (Нацыянальная бібліятэка Польшчы) і Львове (Львоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Івана Франко, Украіна).

— У Варшаве са збору Бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора захоўваецца 11 рукапісаў, усе на царкоўнаславянскай мове, — распавядае Алесь Суша. — Ёсць сярод іх унікальныя. Першы Пскоўскі летапіс (створаны ў 1548 годзе ў Пскове) — адна з найкаштоўнейшых крыніц, паходзіць з Бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора. На ім запісана: 30 жніўня 1539 года. На яго аснове пісалася гісторыя Польшчы. Захаваліся таксама царкоўныя рукапісы: «Златаструй», «Златавуст», Слова Яфрэма Сірына, біблейскія кнігі Старога Запавету: Ісуса Навіна, Суддзяў, Руфі, Эсфіры XV ст. і інш. Нам цікавы ўсходні след гэтага кнігазбору. Пасля захопу Полацка польскімі войскамі было вывезена мноства культурных каштоўнасцей. Бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора стала асновай для кнігазбораў царскіх часоў Івана Грознага — такая арыгінальная версія.

Ёсць захады, каб хаця б часова вярнуць рукапісы, хай на час пэўных экспазіцый. Вядуцца перамовы з львоўскімі і варшаўскімі калегамі. У прыватнасці, у межах сёлетняга візіту дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Рамана Матульскага ў Львоў дасягнута разуменне ў наладжванні супрацоўніцтва.

— Альтэрнатыўны кірунак, больш просты, — атрыманне лічбавых копій, — заключае Алесь Суша. — Такі варыянт — віртуальнае вяртанне — таксама каштоўны для даследчыкаў.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Жыццё ў вострай афарбоўцы

## Сучасны беларускі жывапіс мае поспех у найбуйнейшым расійскім музеі

**У такт часу, крок за крокам нашы мастакі пакараюць Расію, Еўропу. Пра асобных творцаў з Беларусі там ужо добра ведаюць. Выдатная практыка — абменныя экспазіцыі, арганізаваныя не асобнымі майстрамі, а адразу цэлымі галерэямі. Яе ўзялі на ўзбраенне беларуская мастацкая галерэя «Дом карцін» і піцерскі Музей сучаснага мастацтва «Эрарта». Выстаўка работ актуальных расійскіх мастакоў *NEW PAINT.RU*, якая адкрылася нядаўна ў Мінску, — другі этап супрацоўніцтва. Гэта, можна сказаць, працяг папярэдняй экспазіцыі беларусаў «Ты можаш быць свабодным», якая цяпер скарае Санкт-Пецярбург.**



*Аляксандр Дашэўскі (Расія) «Серыя 504».*

**Расія — краіна вялізная, канкурэнцыя там — таксама. Каб «стрэліць», трэба быць геніяльным. І пагеройску працавітым. Як высветлілася, пры ўсёй разнастайнасці аўтараў і плыняў работы сучасных беларускіх мастакоў маюць там поспех. Яны шмат у чым прасякнуты нацыянальным каларытам, светапоглядам, але ў той жа час універсальныя, а таму прыцягальныя. Нашы сучасныя мастакі не проста паказваюць беларускую своеасаблівасць, а аналізуюць свет у цэлым, яны выйшлі за межы, рассунулі абрысы рэальнага і фантастычнага, сумясцілі фальклор і псіхадэліку, інтуіцыю і мудрасць. Рэалізм, экспрэсіянізм, абстракцыянізм, наівізм, сацарт** — няма ніякага строгага раздзялення, усё гэта толькі інструменты для выказванняў.

«Эрарта» — адзін з нямногіх на постсавецкай прасторы прыватных музеяў, прычым даволі буйны. Калісьці гэта была цэлая сетка выставачных пляцовак у Лондане, Нью-Ёрку, Ганконгу, Цюрыху... Зараз у адной з самых вялікіх і шыкоўных залаў Пецярбургскай «штаб-кватэры» сучаснага мастацтва і размясцілася выстаўка беларускіх мастакоў. «Нават самыя снабісцкі настроеныя гледачы і крытыкі Піцера не змаглі выстаяць перад тонкім, загадкава-трывожным жывапісам Наталлі Залознай, яркім і брутальным уварваннем фарбаў у фотапрастору Ігара Цішына, гіганцкімі сацартаўскімі палотнамі Сяргея Грыневіча і творамі іншых мастакоў. Усе выклікалі цікавасць, таму што выстаўка атрымалася разнастайнай, неадназначнай, вострай», — сказаў куратар музея сучаснага мастацтва «Эрарта» Уладзімір Назанскі.



*Алесь Фалей (Беларусь) «Палёт».*

Але звернемся і да піцерскіх мастакоў у Беларусі. Распавядаючы пра прывезены ў Мінск праект *NEW PAINT.RU*, куратар адзначыў нямала цікаўных рэчаў, якія ілюструюць не толькі агульныя асаблівасці дадзенай экспазіцыі, а і ў цэлым рускага (і, нарэшце, беларускага) цяперашняга мастацтва.

Часта пры згадванні слоў «сучасны жывапіс» чакаюць убачыць нешта шакавальнае, кідкае, што рэзка і бязлітасна ламае шаблоны. Выстаўка *NEW PAINT.RU* атрымалася даволі спакойнай, нават стрыманай. «Справа ў тым, што "Эрарта" не прапагандуе радыкальнае мастацтва, а прадстаўляе ў асноўным жывапіс, прычым выходзячы з разумнага бытавога сэнсу, які можна растлумачыць любому чалавеку, што спецыяльна не праходзіў, скажам, курсаў імя Малевіча ў Маскве і не разбіраецца ў праблематыцы мастацкай мовы. Звычайнаму інжынеру можна папросту растлумачыць сэнс любой прадстаўленай тут карціны», — распавёў Уладзімір Назанскі.

Ёсць у Расіі так званыя супермаркеты мастацкага экспарту, куды часта прывозяць рэчы модныя, топавыя, але часта маласпасцігальныя для непадрыхтаванага гледача. «Эрарта» прадстаўляе больш дэмакратычны варыянт мастацтва. У цэлым гэтая тэндэнцыя назіраецца і ў нашых, беларускіх, галерэях. Магчыма, таму шмат у чым мы зразумелыя сваім суседзям, той публіцы, якая не арыентавана на «трэш» і «правакацыю».

Яшчэ адна асаблівасць, якая аб'ядноўвае дзве выстаўкі, мастакоў расійскіх і беларускіх, — іх зварот да вострых сацыяльных пытанняў, адчуванне адказнасці чалавека мастацтва за тое, што адбываецца вакол яго, а не толькі ўнутры сябе. Хтосьці выкарыстоўвае яркую каларыстыку, хтосьці, наадварот, вяртаецца да класічных прыёмаў і сціплай гамы. Гэта не так важна. Напрыклад, работы Уладзіміра Мігачова, Віталя Пушніцкага, Ільі Гапонава з творчай групы «Нескароныя» смела кажуць і пра этыку, і пра экалогію. Ілья Гапонаў распавядае пра шахцёраў, іх цяжкія ўмовы працы. На карцінах для ўзмацнення эфекту ён выкарыстоўвае лак, які мае бітумную аснову, зроблены з каменнага вугалю, здабытага на Кузбасе.

Шмат работ гавораць пра перыяд заняпаду, спусташэння. Зараз не час пераваротаў, хутчэй, зацішша, страта традыцыйных каштоўнасцей, пошук новых, цалкам спрэчных, таму гэта нядзіўна. «Адзін з прадстаўнікоў новага пакалення мастакоў са стрыманым каларытам і манументальным пачуццём — Павел Адзельны. Ён быў вучнем Васняцова-малодшага, а карані яго мастацкай манеры ўзыходзяць да суровага стылю. У ім — увасабленне другой галіны новага пакалення творцаў, тых, што не імкнуцца любой цаной вызваць шок. Яны іншыя, больш лаканічныя, узважаныя, але адчуваюць пры гэтым унутраны смутак за чалавецтва», — адзначыў Уладзімір Назанскі. Як прыклад — разбураны аэрапорт Данецка на адной з карцін майстра.

**Можна правесці творчую паралель з класічнымі трохкутнымі краявідамі нашага мастака Уладзіміра Канцадайлава, які разважае пра філасофію быцця ў прыродных ландшафтах. Або з прыземленымі, трохі дзіцячымі, «хатнімі» палотнамі Тацццяны Радзівілка ў пастэльных танах і злёгку «змазаным» рэтра-каларыце — з маленькімі постацямі людзей і вялікай адкрытай прасторай, сімвалам адзіноты і неабсяжнасці свету.**

Уладзімір Назанскі ўзгадаў сучасных мастакоў, якія адкінулі дзяжурныя буржуазныя каштоўнасці і вяртаюцца да традыцыйных. Гэта моладзь, што ведае па некалькі моў і аб'ездзіла паўсвету, паспеўшы на славу папрацаваць. Яны адрэфлексавалі на модных плынях мадэрнізму і вярнуліся да фігуратыўнага жывапісу, выяў рэальнага жыцця, але з сімвалічным падтэкстам.

**Так, дарэчы, пра чалавечнасць. Зварот да гуманізму — таксама характэрная асаблівасць актуальнага мастацтва. На беларускай выстаўцы ў Пецярбургу скульптар Канстанцін Селіханаў літаральна крычыць у сваіх работах пра тое, што людзям не хапае індывідуальнасці, смеласці, што яны становяцца часткай безаблічнага.** Гэтак жа расіянін Валерый Лука распавядае пра «Канец выдатнай эпохі», малюючы чалавека, які жэстам паказвае стрэл у галаву ці ляжыць як рызлё на бальнічнай кушэтцы на карціне з саркастычна-горкай назвай «Новыя ўражанні».

Праўда, калі ў Расію адправілася прыблізна 70 работ с паметкай «*made in Belarus*» ад 11 аўтараў, то да нас з Пецябурга — ад 26. Падабенства не ў колькасці, як відаць, а ў якасці. Сапраўды, гэтак жа, як *NEW PAINT.RU* з'яўляецца гонарам музея «Эрарта», так і «Ты можаш быць свабодным» — зрэзам найбольш крэатыўнага і глыбокага ў нашым мастацтве. Але папярэдні кастынг быў вельмі жорсткім.

Выстаўка *NEW PAINT.RU* не прэтэндуе на тое, каб зваца агульнарасійскай, якая вызначае глабальныя для ўсіх тэндэнцыі. Але імёны ўяўляе знакавыя. Класічныя майстры, якія працуюць ужо не адзін дзясятак гадоў (Валерый Лука, Фелікс Валасянкоў, Алена Фігурына, Анатоль Заслаўскі, Мікалай Сажын), прадстаўнікі андэграўнду, але таксама ўжо прызнаныя ў свеце (Уладзімір Аўчыннікаў, Уладлен Гаўрыльчык, Анатоль Басін), а таксама маладыя мастакі з розных куткоў Расіі.

Выстаўка падзяляецца на некалькі тэматычных секцый для лепшага разумення — «Ідэнтыфікацыя», «Новая сур'ёзнасць», «Татальны жывапіс» і «Экспрэсіянізм». Пры гэтым кожная карціна выступае не часткай заяўленага напрамку, а самастойнай тэндэнцыяй-выклікам. Як і ў нас, беларусаў. Калекцыя, прадстаўленая ў сталічным Доме карцін, ужо стала рухомай, пабываўшы ў пятнаццаці гарадах у сябе на радзіме. Мінск стаў першай кропкай пашыранага, замежнага турнэ.

Усе мастакі з Расіі, як і з Беларусі, людзі ўніверсальныя і актыўныя. Уладзімір Аўчыннікаў разам з Міхаілам Шамякіным былі ўдзельнікамі выстаўкі мастакоў-працоўных гаспадарчай часткі Эрмітажа, якая ўвайшла ў гісторыю як «бунт такелажнікаў». Пазней Аўчыннікаў стаў адным са слупоў так званай газаневускай культуры і адным з арганізатараў легендарных выставак у ДК Газа і ў ДК Неўскі ў сярэдзіне 1970-х гадоў. Цяпер яго работы захоўваюцца ў калекцыях Эрмітажа, Рускага музея, Метраполітан-музея…

Арыгінальнай і характэрнай з'явай на выстаўцы выглядае расійскі экспрэсіянізм, які ўстойліва прыжыўся ў піцерскай арт-атмасферы. **Як і праца беларускага майстра Алеся Фалея «Палёт», якую набыла галерэя «Эрарта» і ўжо ўнесла ў спіс пастаяннай экспазіцыі.**

**Новая рэальнасць, створаная са штодзённага, звыклага, шэрага, — канёк беларускага майстра Ігара Цішына з яго выбухам фарбаў пасярод апусцелых постсавецкіх «катакомбаў» і расійскага мастака Аляксандра Дашэўскага, «спевака» лаканічнай архітэктуры шматпавярховак ускраіны Пецярбурга. Агульнага, як бачна, шмат, не кажучы пра савецкае мінулае, што пакідае вялікі адбітак на ўзаемаразуменні культур.**

**Анонс беларускай выстаўкі, «якая пасялілася» ў Расіі, можна знайсці ў спісах кшталту «19 экспазіцый восені, дзеля якіх трэба ехаць у Пецярбург» пад загалоўкам «10 магчымых спосабаў вырвацца за рамкі стэрэатыпаў» — і гэта сапраўды поспех.**

Выяўленчае мастацтва ўнікальна сваёй інтэрнацыянальнасцю — як творчае эсперанта, створанае не штучна, а з дапамогай душэўнай, унутранай сілы чалавека, такое, што не патрабуе адмысловага вывучэння. Дастаткова ўмець адчуваць. Каб зразумець карціну, можна быць кім заўгодна: амерыканцам, рускім, палякам, каталіком ці будыстам, пенсіянерам або падлеткам. Галоўная ўмова: твор мастацтва, які падарожнічае па свеце, знаходзіць прызнанне ў іншай краіне, павінен быць актуальным, праблемным, чытацца неадназначна, шматпланава, коратка кажучы, чапляць. Тут не можа быць карцін з серыі «проста куст бэзу» ці «нейкая сцежка ля хаты». Неабходна выклікаць у гледача здзіўленне, неабавязкова з шокам, але тое, што прымушае думаць.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Фэнтэзі па-беларуску

## Як выйсці з лесу Неруш

**Стужка «Неруш», здымкі якой пачаліся ў краіне, павінна стаць беларускім фэнтэзі, заснаваным на родных легендах і паданнях.**

Згодна з тлумачальным слоўнікам, неруш — штосьці некранутае, дзікі лес. У фільме Дзяніса Жыгунова Неруш — гэта мясціны, у якія выпадкова (ці не?) трапляе малады настаўнік: «Фэнтэзі — сучасная інтэрпрэтацыя міфалагічнай спадчыны. Чытаць першакрыніцу, якая натхняе пісьменнікаў і кінематаграфістаў, пад сілу адзінкам, а чытаць сучасныя літаратурныя творы або глядзець фільм змогуць мільёны. У студзені мы выпусцілі канцэпт-трэйлер і ўбачылі, што і ў беларусаў, і ў жыхароў іншых краін ёсць прага новых персанажаў, новых гісторый, бо сучаснае фэнтэзі заснавана, як правіла, на персанажах заходняй міфалогіі. Там няма багніка, пушчавіка, вадзяніка. Наша міфалогія прадастаўляе новыя вобразы. Да таго ж, гэта своеасаблівы крок у кантэксце культурнага адраджэння».

Спачатку каманда збіралася здымаць экранізацыю твораў Уладзіміра Караткевіча, але дэбютны праект мусіў быць нашмат больш таямнічым — за аснову ўзялі народныя легенды і паданні. Але, нягледзячы на гэта, па трэйлеры стужкі проста немагчыма не заўважыць яе няўлоўнае падабенства з творамі Караткевіча — тут, напэўна, будзе штосьці, што нагадае і пра «Дзікае паляванне караля Стаха», і адлюструе нашу Беларусь: «Мы хочам паказаць іншую Беларусь. Неруш — загадкавая, таямнічая прастора, насычаная прыроднай прыгажосцю. Кінагісторыя вучыць увазе да навакольнага асяроддзя, любові да народнай культуры, чалавечнасці. Фільм не арыентаваны на самых маленькіх гледачоў, а вось усім астатнім, я мяркую, павінен спадабацца», — кажа рэжысёр Дзяніс Жыгуноў.

Частка матэрыялу стужкі ўжо падрыхтавана. Здымкі ідуць і зараз: каманда выбрала адной з лакацый перліну Беларусі — Блакітныя азёры, якія як мага лепш падыходзяць для адлюстравання таямнічасці і прыгажосці Нерушы. Пра тое ж кажа і сцэнарыст стужкі Юлія Шэдзько: «Каб не было непаразуменняў: мы не экранізуем паданні ў класічным выглядзе. Мы засяляем нашую чароўную прастору, пушчу Неруш, істотамі з беларускай міфалогіі, якія ўвасабляюць нейкія архетыпы, патаемныя вобразы з уласнай падсвядомасці, з гістарычнай памяці пакаленняў. А падарожжа ў Неруш — як падарожжа ўглыб уласнай душы. Тэма адвечная — пошук сябе, месца ў свеце. Мы захацелі распавесці пра гэта моваю фэнтэзі. І, як беларусы, упісваем гэта ўсё ў кантэкст беларускасці, хочам паказаць, хаця б у крыху, скарбы нашай фальклорнай спадчыны, каб паспрыяць яе захаванню і выклікаць да яе цікаўнасць і з боку саміх беларусаў, і з боку аматараў жанру з-за мяжы. І ўсё гэта на фоне найпрыгажэйшых, найчароўнейшых нашых краявідаў. Бо нам жа сапраўды ёсць што паказаць свету».



*Кадр са здымак фільма «Неруш».*

Дарэчы, «Неруш» часткова здымаецца на грошы, якія выдаткавалі будучыя гледачы фільма: сродкі для фінансавання збіраліся праз краўдфандынгавую платформу *talaka.by*: «Краўдфандынг — адна з магчымасцей сабраць хоць нейкія грошы для здымак. Людзі самі жадаюць поспехаў у здымках, дапамагаюць, чым могуць, і кажуць, каб мы хутчэй знялі сваё кіно, бо падобнага ў краіне няма», — адзначае дырэктар фільма Павел Герасімовіч.

У стужкі будзе і адмысловы саўндтрэк: спецыяльна для «Неруша» музыканты *Salutaris* і *Sense More* запісалі песню «На досвітку», на якую знялі і першы ў Беларусі харавы кліп. Саўндтрэк запісаны на аснове сярэднявечнай скандынаўскай балады, а кампазітарам выступіў дырэктар карціны Павел Герасімовіч, у якога атрымалася спалучыць аўтэнтычнасць харавых спеваў і сучаснасць электроннай музыкі: «Асноўная праца мяне як кампазітара і гукарэжысёра яшчэ чакае наперадзе. На дадзены момант створаны некалькі трэкаў для трэйлера, нашага музычнага кліпа і шмат накідаў музыкі да фільма. Напісанне песень мне вельмі падабаецца, таму гэтая праца даецца вельмі лёгка. У музыцы да фільма будзе прысутнічаць мікс з сучаснай музыкі, беларускага фолку, а таксама класічнага падыходу кінематаграфічнай музыкі».

Сюжэт фільма цалкам не вядомы — здымачная група хоча захаваць для гледача інтрыгу. Але ёсць і «апераныў»: па сюжэце стужкі, хлопец сутыкаецца з прывідам жанчыны, які ў яго закохваецца. Падзеі, абмаляваныя ў фільме, будуць адбывацца ў загадкавым лесе дзесьці ў Беларусі, а вакол гэтага месца шмат легенд, таямніц і жахлівых гісторый. Ад герояў будзе патрабавацца мужнасць, каб не страціць сябе ў прасторы містыкі, пра што кажа сцэнарыст фільма. А гледачу спатрэбіцца адвага, каб вытрымаць інтрыгу, якую задумала здымачная група.

Кіно, заснаванае на нашых легендах, павінна быць цікавым гледачу: нашая гісторыя багатая і дагэтуль амаль ні ў якіх фільмах не адлюстраваная. Павел Герасімовіч лічыць, што беларусам такое кіно не проста патрэбнае, а нават неабходнае: «Нашае кіно — гэта перш за ўсё кіно пра чалавека і пра яго ўнутраны свет, супярэчнасці і пытанні, пра шчасны выхад са свайго ўнутранага леса Неруш. Беларусам патрэбна такое кіно хаця б для таго, каб актуалізаваць нацыянальную свядомасць, ды і мы хочам нагадаць пра тое, якая багатая ў беларусаў культура і мінулае».

Варта адзначыць, што некаторыя праўобразы стваральнікі фільма пазычылі са скандынаўскай балады, але ж сама стужка будзе цалкам беларускай і заснавана на айчынным матэрыяле. З беларускіх герояў стваральнікі фільма бралі толькі фігуры — у «Нерушы» будуць нават свае аналагі нясвіжскай Чорнай Панны, русалак, багнікаў.

# «Лістападаўскія» навальніцы

## скончыліся разам з летам?

**Сёлета Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» адбудзецца ў 23-і раз пад новым слоганам «Насустрач натхненню».**

На фестываль ужо даслалі заяўкі 594 удзельнікі. Сярод іх ігравыя, дакументальныя і дзіцячыя фільмы. «Лістапад», як і заўсёды, пакажа лепшыя стужкі з усяго свету, але сфакусаваны будзе на навінках сусветнага кінематографа.

Як стала вядома, у гэтым годзе «Лістапад» у даволі цяжкай сітуацыі: генеральны партнёр фестывалю адмовіўся ад спонсарства. Нягледзячы на гэта, арганізатары кінафестывалю адмяняць яго не плануюць, тым больш намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Наталля Качанава заявіла, што «Лістапад» «пройдзе на высокім узроўні». Сярод заснавальнікаў «Лістапада» — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, якое кампенсавала амаль палову выдаткаў. Але для правядзення конкурсу такога высокага ўзроўню гэтай сумы будзе недастаткова.

Што датычыцца саміх арганізатараў, то каардынатар прэс-цэнтра кінафестывалю Ксенія Абрамава паведаміла, што «праца па фестывалі працягваецца, і ён адбудзецца як запланавана».




«Лістапад» — самая важная падзея ў сферы кінематографа нашай краіны, таму і заявак на ўдзел у Нацыянальным конкурсе хапае: 84 стужкі будуць змагацца за ўзнагароду галоўнага кінаспраборніцтва.

Арганізатары абяцаюць аматарам добрага кіно сапраўднае падарожжа ў невядомы свет, спасціжэнне ісцін, прыгажосці і сустрэчу з натхненнем.

Пазнаёміцца з кіно як мастацтвам, а не забавай можна будзе ў многіх мінскіх кінатэатрах. Акрамя таго, як і заўсёды, некаторыя паказы будуць працягвацца сустрэчамі з рэжысёрамі стужак, дыскусіямі, майстар-класамі і выстаўкамі.

# Новая эпоха...

Напэўна, здаецца, што кіно, якое паказваюць у кінатэатрах, выбіраем мы самі. Так і ёсць, але ж прывозяць гэтыя стужкі і адбіраюць кіно для нас у сталічным «Кінавідэапракаце». 20 гадоў таму гэтую місію ўсклаў на сябе генеральны дырэктар установы Васіль Пятровіч Коктыш, які два тыдні таму пакінуў сваю пасаду.

Чалавек, які прывёз у Беларусь «Тытанік», прывіваў густ аматарам кіно з дапамогай густу ўласнага, пакідае кіраўніцтва сталічнымі кінатэатрамі, пра што стала вядома напрыканцы жніўня. Васіль Пятровіч займаецца кіно ўжо шмат гадоў, можа доўга распавядаць пра этапы развіцця кінапракату ў краіне, памятае час, калі кіно для гледача здабывалася пасля праглядаў у кінатэатрах, а не па інтэрнэце.

Падчас кіравання «Кінавідэапракатам» Коктыш шмат увагі надаваў не толькі прэм'ерным паказам сусветных стужак, але і знаёміў беларускага гледача з еўрапейскім, азіяцкім, амерыканскім кінематографам, падтрымліваў правядзенне кінафестываляў, дапамагаў прасоўванню маладога беларускага кіно.

Васіль Пятровіч ведае, як прывіць любоў да добрага кіно і што патрэбна беларускаму гледачу, які сёння нецярплівы, патрабавальны, дапытлівы і цікаўны, пра што Коктыш, дарэчы, казаў у ліпеньскім нумары «ЛіМа». Ён сапраўды адчувае фільмы скурай.

Спадзёмся, тое ж самае чакае нас і далей з новым кіраўніком «Кінавідэапраката» (бо менавіта ад гэтай пасады залежыць, якое кіно мы будзем глядзець), а пакуль вядома, што часова яго абавязкі выконвае Андрэй Разжавайкін.

**Матэрыялы падрыхтавала Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Таленты нараджаюцца аднойчы

…Кажуць, сапраўдны талент нараджаецца раз у сто гадоў (а можа, і болей). А тут на нашу шаркаўшчынскую зямлю, мабыць, з нябёсаў спусціўся незвычайны чалавек.

У асабістых дакументах артыст Павел Піліпавіч Дубашынскі пісаў: месца нараджэння — вёска Гарбуны. Яна была раскінута ўздоўж і ўшыркі, за пару кіламетраў ад мястэчка Шаркаўшчына. Хутары размяшчаліся адзін каля аднаго і таксама адносіліся да вёскі Гарбуны. На ўзвышшы, непадалёку ад чыгуначнага палатна, стаяла сціплая сядзіба Дубашынскіх. Над самай рэчкай праходзіла вясковая пешая дарога, дзе можна было праехаць толькі на кані, запрэжаным у калёсы, а зімой — у сані. Людзі хадзілі ў мястэчка пешшу, а ў святы ці ў кірмашовы дзень запрагалі каня ў лінейку, па-святочнаму ўпрыгожаную, і цэлымі сям'ямі адпраўляліся за пакупкамі, збытам вырашчанага на прысядзібным участку, пачастункамі або прыемна правесці ад цяжкай сялянскай працы час. Кожны гаспадар меў свой зямельны надзел, вёў хатнюю гаспадарку.

На адным з такіх хутароў, прымкнутым да вёскі, у дружнай, працавітай сям'і Піліпа Міхайлавіча і Канстанцыі Станіславаўны 14 сакавіка 1931 года нарадзіўся жаданы хлопчык Паша. Быў старэйшы сын Пётра (у вайну яго забілі немцы), дочкі, якія рана памералі.

Калі Паўлу споўнілася сем гадоў, ён пайшоў у Пялікаўскую чатырохгадовую школу. Успамінае той час зямляк Дубашынскага Радзіён Юльянавіч Ліпскі:

— Пры тых саветах школа была, дзе цяпер жывуць Багданёнкі. Пры немцах яе спалілі. Але знайшлася сям'я ў вёсцы Дубавое, у якой была вялікая хата, і адзін канец яе адпусцілі пад школу. Пры Польшчы хадзілі ў школу ўсе дзеці да 14 год. Навучанне вялося толькі на польскай мове. З усталяваннем савецкай улады на тэрыторыі Заходняй Беларусі новая сістэма адукацыі прадугледжвала перамяшчэнне вучняў на адзін год ніжэй з-за таго, што школьнікаў трэба было вучыць па-беларуску. Суровае лета 1941 года: да восені мясцовасць была акупіравана. Але дзеці працягвалі вучыцца ў школе… Паша адрозніваўся ад усіх вучняў добрай вучобай, быў дабрадушны і спагадлівы. Калі хто не паспяваў з вучобай, заўсёды дапамагаў. Да таго ж ён добра маляваў, спяваў. Памятаю, як задала мне настаўніца намаляваць каня. Я варочаў аркуш паперы то ў адзін, то ў другі бок і не ведаў, з чаго пачаць. Заўважыў маю разгубленасць Паша і тут жа намаляваў каня як жывога. А я за яго працу атрымаў «пяцёрку».

Прыгадвае Леанід Іванавіч Ананіч:

— У вольны ад заняткаў час мы заўсёды дапамагалі бацькам па гаспадарцы. У тыя часы касілі ўзрэчча каля Дзісёнкі — рыхтавалі сена на зіму жывёле. Бацькам дапамагалі, і ніхто не лічыў гэта за цяжкасць. Павел з бацькам на лодцы пераплывалі раку і касілі там траву. Сена, перапраўленае на свой бок, перавозілі на конях дадому. Мы, дзеці, пасвілі статак (адбывалі радоўку), гулялі разам у простыя гульні, захапляліся прыгажосцю мясцовых краявідаў.

— Як цяпер бачу яго ў нашым класе, — прыгадвае Леангіна Баляславаўна Шарсцень. — А прыходзіў ён заўсёды акуратны, апрануты ў шэры кіцель, пашыты з шынеля з радам бліскучых гузікаў. Паша быў круглы пяцёрачнік. Кіраваў гурткамі. Калі прыходзіў у клас, нам было весела і цікава.

Калі хрушчоўская сістэма ў 1961 годзе прымусіла хутаран перавязджаць у вёскі, Дубашынскія перавезлі свой «хутар» у Шаркаўшчыну. Знаходзіўся ён насупраць цяперашняга Дома Саветаў. Непадалёку ад іх дома быў касцёл (пры саветах яго разбурылі), куды Канстанцыя Станіславаўна хадзіла па святах. А бацька, Піліп Міхайлавіч, разам з сынам — у царкву (былі дзве, якія і захаваліся да сённяшніх дзён).

Павел закончыў Шаркаўшчынскую дзесяцігодку і вырашыў паступаць у тэатральны інстытут. З першага разу не ўдалося, пэўна, падумалі: «Куды тут вяскоўцу?!». Год працаваў у зямельным аддзеле райкама. Мара стаць артыстам Дубашынскага не пакідала ўвесь час, тым больш што Бог надзяліў яго такім рэдкім голасам. А тут штуршком паслужыў яшчэ такі факт. Мясцовы кінамеханік паведаміў, што ў Шаркаўшчыну прыехаў тэатр з Ленінграда. Гэта была невялікая трупа Александрынкі (Ленінградскі тэатр імя А. С. Пушкіна) з двума спектаклямі: «Каварства і каханне» Ф. Шылера і «Без віны вінаватыя» А. Астроўскага. Тэатр ускалыхнуў у душы сялянскага хлопца высокія пачуцці, а ігра знакамітых акцёраў умацавала жаданне стаць акцёрам. Павел Дубашынскі зноў адправіўся ў Мінск. «Я вазьму сваім тэмбрам голасу», — запэўніваў ён сяброў.

У 1951 годзе вясковы хлопец, адзіны з раёна (больш артыстаў не было і няма) атрымаў студэнцкі білет у Беларускі тэатральны інстытут у майстэрню Л. І. Мазалеўскай і Ф. Ждановіч. Сярод дваццаці студэнтаў Павел вылучаўся творчай энергіяй, быў душой курса. На студэнцкіх вечарынах, «капуснíках» ён спяваў пад гітару вясёлыя песні, чытаў вершы. Яго хутка прыкмецілі ў тэатральным асяроддзі і ўжо на другім курсе запрасілі на радыё, дзе ён вельмі пачуццёва прачытаў верш «Мужык» Я. Купалы.

З таго часу і да апошніх гадоў жыцця яго голас заўсёды гучаў у эфіры. Чытаў



*Павел Піліпавіч Дубашынскі (1931 — 2000) — народны артыст Беларусі, акцёр Беларускага тэатра юнага гледача (1955 — 1967), акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (1967 — 2000).*

абразкі, навелы з асабістага жыцця, напісаныя самім.

У 1966 годзе П. П. Дубашынскаму было нададзена ганаровае званне заслужанага артыста БССР. З'явілася тады магчымасць купіць машыну «масквіч». Лепшай за сваё жыццё ён і не набыў. Прыгадвае Надзея Паляк:

— Бывала, паставіць сваю аўтамашыну каля самага ўскрайку дарогі, а то заедзе ў двор шматкватэрных дамоў, дзе я жыву і па сення, сам ідзе ў госці да Бурчыкаў. З Алегам Піліпавічам ён хадзіў разам у школу. Яго жонка Алена Генрыхаўна Бурчык была дырэктарам Шаркаўшчынскай сярэдняй школы. Звычайна Павел прыязджаў адзін (раз толькі бачыла з жонкай). Яго дужа ўсе любілі ў нашай акрузе, бо ён быў не толькі абаяльны, але і цікавы субяседнік: не абыдзе ні малога, ні старога, каб нейкім словам не зачапіць.

У 1989 годзе П. П. Дубашынскі атрымаў званне народнага артыста Беларусі. Знакаміты на ўсю краіну і за яе межамі, артыст не быў ганарлівым. Вельмі любіў і паважаў сваіх бацькоў, запрасіў іх пажыць у Мінску. Толькі доўга яны там не затрымаліся, хутка вярнуліся ў Шаркаўшчыну. Пэўна, так падказваў Усявышні, каб быў куточак на малой радзіме, куды была б магчымасць прыехаць.

Час бяжыць няўмольна, адышлі бацькі ў свет іншы, але Павел не парываў сувязі з роднымі мясцінамі, сябрамі і знаёмымі, улюбёны ў родны край, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва.

— Калі ў 1957 годзе зноў сустрэліся з Паўлам Дубашынскім у Шаркаўшчыне, я стала хваліць яго як знакамітага артыста, — прыгадвае Надзея Паляк. — Зайшла гаворка пра спектакль «Обальскія падпольшчыкі». «А вы запомнілі Валодзю Язавітава, хлопчыка ў белай кашулі? Гэта ж быў я», — не без гонару сказаў Павел Піліпавіч.

Будучы ў адпачынку, ён прыязджаў у Шаркаўшчыну, затрымліваўся ў сям'і Бурчыкаў або ў Рамана Сцяпанавіча Кудрына, Героя Савецкага Саюза. З імі было пра што пагаварыць, прыкмеціць тэмы для сваіх твораў, нешта выкарыстаць для ігры на сцэне. А каб, як кажуць, расслабіцца, ехаў у вёску Гарбуны, Пятровічы. Там сустракаўся з рыбакамі і аддаваўся рыбнай лоўлі. Спыняўся Павел у сям'і Марыі Сцяпанаўны Цітовіч. Калі знікла магчымасць быць у іх, пасябраваў з сям'ёй яе сястры Любові Сцяпанаўны Мацук. А вось з сынам (Любоў Сцяпанаўна была настаўніцай) Віталем Вітальевічам, журналістам мясцовай газеты, звязала рыбалка. Хоць Віталь на 13 гадоў быў маладзейшы, яны мелі агульныя інтарэсы. На другі дзень пасля рыбалкі Павел Піліпавіч прыходзіў да нас у рэдакцыю, ужо з парога чуўся яго своеасаблівы тэмбр, які прымушаў адкрываць дзверы пакояў, каб перакінуцца з такім чалавекам хоць словам.

Аднойчы надарылася такая магчымасць шаркаўчанам, калі артыст тэатра і кіно, якога не раз глядзелі па тэлебачанні, слухалі па радыё, па запрашэнні раённай улады з'явіўся на сцэне раённага Дома культуры. Зала была перапоўнена. Адзін на працягу двух гадзін на чыстай, сакавітай беларускай мове чытаў маналогі, урыўкі з кіно, адказваў на пытанні, свабодна, нязмушана гаварыў з кожным, каго цікавіў. Пасля імпрэзы творчыя людзі раёна запрасілі госця ў клуб на кубачак гарбаты. Столькі было пытанняў да Паўла Піліпавіча ад кожнага з нас, што ён толькі паспяваў адказваць, але і ўносіў сваё, нам невядомае, праз анекдоты, маналогі. Думалі, збяромся гадзіны на дзве-тры. А засядзеліся да раніцы наступнага дня. Развітвацца не хацелася. Прыгадвалі, гаварылі, сустрэлі світанне. Адзін з нас, настаўнік, прыхільнік роднай мовы, Ігар Славамíравіч Дземідовіч, так расчуліўся, што зняў свой святочны гальштук і падарыў народнаму артысту. Шкада, што гэтая цудоўная сустрэча з Паўлам Піліпавічам Дубашынскім была апошняй.

Аднак мы сачылі за прэсай, за яго выступленнямі. Таленавіты ён быў ва ўсім. Калі голас стаў падводзіць, пачаў пісаць.

Яго навелы атрымліваліся не горш сыграных роляў. І навеліст-апавядальнік захапіў слухачоў радыё. Вось як ён піша, а затым чытае пра вёску Палялейкі, якая знаходзіцца на процілеглым беразе Дзісёнкі за метраў 300 ад хаты дзяцінства (тыя, каго гэта тычылася, слухалі, прыкладваючы вуха да радыёпрыёмніка, і ганарыліся, што так трапна расказвае зямляк пра іх вёску): «Палялейкі здаваліся мне нейкай другой краінай, дзе жылі нейкія другія, прыгожыя людзі сярод гэтых пазалочаных сонцам ліп і дубоў, сярод тапаляў, прысадзістых яблынь і стромкіх ігруш… Я ўглядаўся ў мужчын, і яны, асветленыя вечаровым сонцам, здаваліся велізарнымі. Калі махалі косамі на прырэчным лужку… І прозвішчы ў іх былі Гардзяёнкі, Ляшкі, Лялекі…» Так было. На жаль. Пасля добраўпарадкавання вёска страціла ранейшы выгляд. Няма тых цяністых дрэў, тых мужчын, што касілі лугі, апусцелі хаты без гаспадароў. Пазарастала ўзрэчча дзікай травой у рост чалавека. Праўда, прозвішчы вяскоўцаў засталіся як добры напамін.

А калі прачытаць абразок «Яблыня на дзедавай магіле»… Якія ў ім трапныя словы, якая замілаванасць прыгажосцю родных мясцін! Пасля добраўпарадкавання могілак няма той яблыні, як і тых, хто садзіў, хто смакаваў плады першых восеньскіх яблыкаў. Завяршылася для іх восень жыцця…

**P. S.** З блізкіх людзей П. П. Дубашынскага засталася дачка Ірына, жыве ў Мінску. Яна скончыла Мінскае культурна-асветніцкае вучылішча ў 1984 годзе і ў 1991 — Мінскі інстытут культуры. Цяпер Ірына Паўлаўна — сястра міласэрнасці праваслаўнага сястрынства пры Свята-Елісавецінскім манастыры.

**Кацярына СОСНА,**
*Шаркаўшчына*

**Уладзімір Караткевіч пісаў:** «Першы візіт, якому рады. Прыйшоў Павел Дубашынскі. Пайшоў вечарам. Адзін з самых таленавітых людзей, якіх я ведаю. І не толькі як акцёр, ён якраз менш за ўсё грае, хіба толькі сваю слаўную душу. Гэта як… дзяцькі такія бываюць на вёсцы: гавораць — заслухаешся, салавей, калі можна сабе ўявіць салаўя з пачуццём гумару, і ўсё гэта робяць, як кажуць, не для хлеба куса, а для пана Езуса.

Расказаў такія гісторыі, што смяяцца і плакаць хацелася — і жывая праўда, якой не выдумаеш, хоць язык адкусі, хоць бэркавец паперы з'еш. І разумны, як не мала хто з акцёраў, а і мала хто з пісьменнікаў. Мабыць, некаторыя і не вераць. А я веру, бо талент на незвычайныя здарэнні. Як і ў мяне. Трапіш, а пасля сам здзіўляешся.

І які талент увогуле. Расказаў чатыры голай праўды гісторыі, якія, каб запісаць так, як ён расказаў, — цаны б ім не было. Локці кусалі б усе нашы г… і нават тое, што выпіў крыху, лепей за іхнюю, на людзях, цвярозасць. Як шкада, што прападуць! З усім трагізмам, гумарам, чалавечнасцю. Праўду кажуць, што калі ўжо таленавіты, то нават дровы таленавіта сячэ, нават малюе — на ўсе рукі майстар. А так, мабыць, і трэба.

Калі не ўгавару яго, лайдака, прапалі для Беларусі чатыры навелы, якіх ніводная літаратура не нюхала».

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Дзень як песня

Атмасфера «Камяніцы» пачынае адчувацца ўжо на ранішніх зборах на фестываль. Раз на год можна сабе дазволіць не толькі апрануць вышыванкі, але і占 паначапляць розных этнааксесуараў. І пры ўсім пры гэтым адчуваеш бязмежную радасць не столькі ад сябе прыўкраснай, колькі ад таго, што сёння такая незвычайная будзеш далёка не адна.

«Свае» пазнаюцца лёгка. Прынамсі, на прыпынку, адкуль курсіруюць фестывальныя аўтобусы, «камянічныя» бачныя здалёк: моладзь і не зусім моладзь у андараках і вышыванках, з панкаўскімі прычоскамі і хіпстарскімі завушніцамі. Як і заўжды, «Камяніца» любіць аб'ядноўваць людзей абсалютна розных густаў і светапогляду.

Калі я ехала на фестываль, то на некалькі хвілін уключыла злобнага троля: «Чым жа можа здзівіць сёлета "Камяніца" чалавека, які пастаянна варыцца ў гэтай сферы ўжо не адзін год?» Але гэтае адчуванне знікла адразу ж, як толькі я ступіла на тэрыторыю комплексу. Колькі б ты ні варыўся ў гэтым, «Камяніца» дае магчымасць прынамсі адзін дзень пабываць у этна-Беларусі.

«Камяніца» — гэта добрая нагода пагрузіцца ў сучасны фолк як для навічкоў, так і для тых, хто нейкім чынам датыкаецца да этнаграфіі ў паўсядзённым жыцці. Навічкі могуць літаральна мацаць вачыма ўсё: вопратку гледачоў і выступоўцаў, народныя танцы і забавы, кавалкі сена, што пралятаюць аднекуль, стрэхі хат у комплексе — і лавіць вушамі гукі: і традыцыйнай дуды, і народных спеваў, і шалёных рытмаў фолк-металу. Для «профі» ў гэтай справе «Камяніца» — добрая магчымасць асэнсаваць, што ўяўляе сабой беларускі фолк сёння.

Сама атмасфера фестывалю адкрывае нейкія патаемныя куточкі ўласнай душы. Я нібыта ўзгадваю, што песня — гэта не толькі неад'емная частка жыцця продкаў, але і майго жыцця таксама, калі зранку напяваю знаёмую мелодыю, робячы сабе каву, ці калі спяваю нешта падчас працы. На «Камяніцы» спяваюць паўсюль: на вялікай і малой сцэне, рэканструюючы абрад традыцыйнага вяселля… Нават у кавярні пад адкрытым небам, дзе людзі гуртаваліся за кубкам квасу, можна было пачуць знакамітага «Каваля».

Але ці з'яўляецца фолк толькі рэгулятарам уласнай гарманічнасці? Што такое фолк сёння? І ад чаго залежыць яго развіццё? Каардынатар фестывалю


Фота Дзіяны Сярадзюк.
Іван Кірчук на фолк-фэсце «Камяніца».

Сяргей Чагрынец выказаўся наступным чынам:

— Развіццё такога напрамку, як фолк, у Беларусі залежыць ад зробленага музыкамі прадукту, а не проста ад нейкіх прыватных намаганняў. Пяць гадоў таму падчас выступу нейкага гурта на «Камяніцы» наша знакамітая спявачка Руся стаяла з нататнікам, канспектавала нешта, і толькі ўсклікала: «Я не думала, што фолк можа быць такім!». Натуральна, для развіцця мы хочам пашырыць фэст — праводзіць яго ў рэгіёнах Беларусі. Але варта ўсвядоміць, што на сёння фолк у Беларусі — гэта не столькі звяртанне да каранёў, колькі інтэрпрэтацыя ўласных пачуццяў.

І калі я падышла да галоўнай сцэны, з якой выступалі як айчынныя, так і замежныя фолк-гурты, зразумела, што, сапраўды, сучасны фолк — гэта нашыя адчуванні і адлюстраванне ўласнага светапогляду. Іван Кірчук перадае гэтыя адчуванні праз непаўторныя гукі інструментаў, гульні з гукамі і своеасаблівай манерай выканання. Украінскі гурт «ТаРута» вывеў людзей на танцы. А вядома, што беларусам пайсці ў пляс фактычна адразу досыць складана. Украінцы паказалі, як яны адчуваюць прыналежнасць да сваёй культуры. Кожная новая песня была непадобнай да папярэдняй. Выканаўцы адрозніваліся нават у стылі вопраткі. Ключавыя словы, якімі можна акрэсліць іх творчасць: «яны гэта так адчуваюць». І, магчыма, камусьці з беларусаў гэтыя адчуванні былі блізкія. Упершыню на «Камяніцу» прыехала і расійская спявачка Іна Жаланная. Яе творчасць не ўпісваецца ў межы нейкіх жанравых азначэнняў. У яе музыцы спалучаюцца элементы року, джаза, трансу, электронікі і псіхадэлікі. Але ў аснове — рускі фальклор. Расійскі гурт «Оле Лукое» прадэманстраваў сваё бачанне фальклору — у паганскім і трансавым свеце. Такая інтэрпрэтацыя таксама блізкая некаторым беларусам.


Фота Івана Мураўёва.
Рок гучаў на «Камяніцы».

Алег Хаменка, вядучы фэсту, прадставіў ужо дастаткова папулярны беларускі гурт «Re1ikt» наступным чынам: «Гэта гурт, які стварае ў Беларусі новы фолк». Словы лідара гурта «Палац» яшчэ раз пацвярджаюць той факт, што фолк не закансерваваны ў нейкім слоіку пад выглядам чыста аўтэнтычных спеваў, якія не спалучаюцца з сучасным жыццём. Фолк — гэта адлюстраванне пачуццяў выканаўцаў, якіх хвалюе і пытанне: «А што адчувалі мае продкі?».

Зрэшты, натуральна, што ў беларускім фолку сваё месца займаюць і этнаграфічныя гурты. На фестывалі выступаў і «Ветах», «Рада», і «Варган», і «Мярэжа», якія даюць нам зразумець, а як было «тады».

На працягу фэсту я задавала сабе пытанне: «А ці ёсць гэта ўсё сапраўднае?» І атрымала адказ «так». Бо такі сапраўды вялікі для Беларусі фолк-фэст — гэта праца выступоўцаў, этнографаў, танцораў, музыкаў, гандляроў… Гэта праца тых, хто займаецца гэтым штодзённа.

Але, на мой погляд, усё ж такі адна ніша беларускага фолку на сёлетняй «Камяніцы» засталася не занятай — духоўны беларускі спеў. На «Камяніцы» ён вельмі б арганічна спалучыўся, улічваючы, што на тэрыторыі комплексу ёсць некалькі рэканструяваных цэркваў, унутры якіх зроблены музей. Вядома, што большасць народных спеваў прасякнута пабожнасцю. Таму духоўнасць і фолк — сінонімы ў такой жа раўназначнай ступені, як і сінанімічныя фолк і паганства. Тым больш прыгожая рэканструяваная ўніяцкая царква ў Строчыцах выглядае крыху памерлай унутры. Думаю, там сапраўды не хапае музычных калектываў, якія б змаглі раскрыць прыгажосць і гэтай значнай часткі беларускасці.

І, канечне, плюсік такіх мерапрыемстваў хаваецца ў тыповых пажаданнях: «хай моладзь культурна адпачывае, чым па пад'ездах ходзіць!». Пра гэта я б і не ўзгадала, калі б не дзве жанчыны, якія ішлі акурат за мной да выхаду: «Вось бачыш, а ў нас у маладосці на такіх мерапрыемствах моладзь толькі брала келіхі ў рукі — і ў кусты. А зараз, бачыш, моладзь нават у народных строях ходзіць!»

Па дарозе дадому я пазнаёмілася з маладой парай крышнаітаў (на пачатку я ж казала, што «Камяніца» аб'ядноўвае ўсіх). Пацікавілася ў іх: «Што больш за ўсё спадабалася на фэсце?» Дзяўчына з запаленымі вачыма сказала: «Дрэвы. Нам падабалася слухаць музыку ў лесе. Праз дрэвы гук ад спеваў быў проста неверагодны!». Хтосьці можа сказаць, што такі адказ толькі пацвярджае разнастайную публіку гэтага фестывалю. Але для мяне гэта чарговы доказ таго, што нам трэба ўсім сапраўды вучыцца перабудоўваць мысленне і ўспрымаць фолк па-іншаму — як сродак адлюстравання светапагляду і як элемент у кагосьці вялікага, а ў кагосьці — маленькага кавалачка душы, без якога так часта не атрымліваецца суіснаваць у гармоніі. А для таго, каб фолк у нашай краіне развіваўся, варта наўпрост не баяцца злучаць свае інтэрпрэтаваныя ў музыку эмоцыі з дзесяцці пачутымі народнымі матывамі. І не трэба забываць, што любы музычны напрамак не можа жыць асобна ад людзей. Музыку трэба несці ў масы. Таму будзем чакаць новых фолк-фестываляў, якія б нагадвалі беларусам пра тое, што фолк жывы, і запальвалі б самых выступоўцаў на яго стварэнне.

Вікторыя ЧАПЛЕВА


Фота Дзіяны Сярадзюк.
Публіка «Камяніцы».

# Агульнасць інтэлекту і цікавасцяў

## звязала жыццёвыя і творчыя шляхі Наталлі і Георгія Паплаўскіх

Калі гэтыя людзі побач, адвесці ад іх вочы немагчыма: энергетыка цёплых, гарманічных пачуццяў захапляе. Нядаўна ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася сумесная выстаўка мастакоў «Вехі творчасці», дзе абсалютна арганічна пераклікаюцца палотны аўтараў: у яе — мяккія, цёплыя матывы, у яго — сур'ёзныя восеньскія тэмы.

Здаецца, моцныя творчыя тандэмы сёння — эксклюзіў. Так і ёсць: дастаткова часта ў сем'ях, дзе ўсе займаюцца адной справай, хтосьці адзін пачынае капіраваць другога. У выніку яны апынаюцца пад крытыкай, і кожны пачынае цягнуць коўдру на сябе. Па словах Наталлі Мікалаеўны, у сям'і яны змаглі пазбегнуць такой сітуацыі, і кожны выпрацаваў уласны стыль. Нягледзячы на тое, што ўдвах мастакі захапляюцца аднымі рэчамі, любяць і захоўваюць у памяці адны і тыя ж падзеі, усё ж імкнуцца не паўтарацца, не папраўляць адзін аднаго. Іх звязала агульнасць інтэлекту і цікавасцяў.

У жыцці творцаў істотную ролю адыгрываюць падарожжы і бязмежная любоў да радзімы. Дзе толькі яны не былі! Георгій Георгіевіч расказвае, што не змог пабываць толькі ў Антарктыдзе, а пяцьдзясят год таму прапаноўвалі застацца ў Аўстраліі. Дык не захацеў: там жа ўсё чужое. Калісьці аўтар ад Саюза мастакоў на паўгода адправіўся ў падарожжа па Атлантыцы, прывёз адтуль неверагодныя пейзажы. Але ж дзе б ні быў, думкі пра родную зямлю ніколі не пакідалі. Наталля Мікалаеўна расказала гісторыю, калі ўпершыню іх сям'я прыехала ў Крым. Яны былі здзіўлены прыгажосцю паўвострава, гармоніяй марскіх пейзажаў, унікальнасцю крымскай прыроды. Але ж прайшло некалькі дзён, і сям'ю Паплаўскіх захапіла туга па доме. Здавалася б, у Крыму добра, мора побач, але так пацягнула да сваёй зямлі, што яны былі гатовыя паехаць дадому раней запланаванага часу. Дарэчы, вялікая колькасць твораў Георгія Паплаўскага, прысвечаных падарожжам па розных краінах свету, прадстаўлена на выстаўцы на другім паверсе музея.

У творчым асяродку неаднойчы гучала меркаванне, што Георгію Паплаўскаму па жыцці шанцуе: і сям'я добрая, і ў мастацкай плыні ўсё атрымалася, і слава ёсць. Але Наталля Мікалаеўна не згодная са сцвярджэннем «пашанцавала». Яна лічыць, што мастак дасягнуў усяго неверагоднай працаздольнасцю. Былі ў жыцці розныя сітуацыі, а такога, каб усё ішло як па масле, нават немагчыма ўспомніць. Было і такое, што работы крытыкавалі. Напрыклад, выстаўку «Вехі творчасці» адкрывае работа «Браслаўскія калгасніцы», за якую ў шасцідзясятых гадах майстра асуджалі, здымалі з выставак і пыталі, чаму ён паказвае сялянак босымі. А Георгій Георгіевіч не мог іх паказаць па-іншаму, бо гэта была праўда.



*Георгій Паплаўскі «Кірыла Тураўскі».*

Шмат часу мастакі раней бавілі на лецішчы на Браслаўшчыне. Там стварылі мноства пейзажных работ. Калісьці Георгій Паплаўскі напісаў акварэльную работу «Наша возера», дзе ўвасобіліся самыя прыгожыя фарбы прыроды. Пасля карціна была прададзена. Наталля Мікалаеўна любіла гэты твор, таму здзівілася. Але ж муж паабяцаў напісаць ёй яшчэ такі пейзаж, але не змог. Верагодна, таму што натхненне і імпульс менавіта на гэты твор прыйшлі аднойчы, тым больш мастацтва — не механічная справа, а мастак — не станок, які можа штампаваць па некалькі копій.



*Наталля Паплаўская «Стары мядзведзь на калодзе».*

Наталля і Георгій Паплаўскія ствараюць вакол сваёй сям'і неверагодную атмасферу. Ён сур'ёзны і ўважлівы, а яна мяккая, вясёлая, з добрым пачуццём гумару. Гэта заўважна нават па творах. У работ, што экспануюцца на выстаўцы, моцныя, сур'ёзныя сюжэты: Георгій Георгіевіч успамінае пра бацькоў, цікавіцца рэлігійнай тэматыкай, малюе партрэты знакавых асоб Беларусі (Францыск Скарына, Сімяон Полацкі, Кірыла Тураўскі). Наталля Мікалаеўна ў сваю чаргу захапляе казачнымі матывамі. Персанажы беларускага фальклору, беларускіх казак і казак народаў свету ў адлюстраванні аўтара ажываюць, набываюць своеасаблівы стыль, характар.

Вельмі важна, што ў айчынным мастацтве жыве творчасць такога ўдалага тандэма. Дачка аўтараў Кацярына таксама стала іх жыццёвым і творчым працягам. Магчыма, адзін без аднаго творцы не змаглі б здзейсніць столькі мэт і жаданняў. Але ж Бог звёў іх на адным жыццёвым шляху, і ў выніку яны скарысталіся магчымасцю кахаць, захапляцца і марыць.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс




Ёсць помнікі велічныя і прыгожыя, узведзеныя для ўвекавечання памяці героя ці падзеі, а ёсць — сціплыя, што атрымлівалі статус помніка пасля знакавых падзей. З ліку апошніх — полацкі Чырвоны мост праз раку Палату. Звычайны мост. Адразу і не заўважыш, што ён старадаўні. А вядомым мост стаў пасля крывавых баёў ля яго ў кастрычніку 1812 года, калі вада ў рацэ была чырвонай ад крыві загінулых і параненых ваяроў рускай і французскай армій.

Пра гэта мая жонка Наталля расказала нашаму шасцігадоваму ўнуку Дзянісу (на здымку). Мы — жыхары Гомеля. Спецыяльна прыехалі ў Полацк на адзін дзень, каб пабачыць знакаміты горад. Здавалася, што гісторыя пра мост не застанецца ў памяці хлопчыка, бо пешы пераход па вуліцы Еўфрасінні Полацкай ад Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра да ракі Дзвіна, мноства цікавых месцаў, музеяў і помнікаў «перакрываюць» тыя ўражанні іншымі, больш моцнымі. Але, калі мы апынуліся на вузенькім мастку над Палатой, каля Сафійскага сабора, Дзяніс звярнуў увагу: колер вады ў рацэ чырванаваты…

**Яўген ШАСТАКОЎ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваны на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 15.09.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1646.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3373

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686